12 лютага 2016 | № 6 (471)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Папярэджваючы стрэл
стар. 5

**6 ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАХАННЯ**

Яны пражылі разам 55 гадоў. Аднойчы з ім здарыўся інфаркт — сэрца стаяла чатыры хвіліны, яго ледзь выратавалі. І адразу пасля аперацыі даў вялікае інтэрвʼю пра сваё юначае каханне, якое пранёс праз усё жыццё. Яго звалі — Генадзь Бураўкін, яе — Юля...



**11 КІНО ЗАМЕСТ ХЛЕБА**

У Казахстане задумалі зняць серыял, які б не саступаў славутай «Гульні тронаў». Навошта казахскім чыноўнікам кіно падчас крызісу, распавядае праваабаронца з Алма-Аты Андрэй Грышын

**7–10 Вершы на асфальце**

**14 ЗВЕР ЁСЦЬ У КОЖНЫМ З НАС**

Сяргей Вераціла ніколі не імкнецца здавацца лепш, чым ёсць на самай справе. А яшчэ ён гаворыць у вочы тое, што думае, а гэта мала каму падабаецца

# Грошы патрэбны ў купюрах, а не ў дамоўленасцях

**У Сочы беларускага кіраўніка цікавіла, ці падтрымае Масква беларускую эканоміку**



Сяргей ПУЛЬША

Яшчэ пару тыдняў таму прамільгнула паведамленне пра тэлефонную размову Пуціна і Лукашэнкі, дзе адзначалася, што кіраўнікі Расіі і Беларусі дамовіліся правесці двухбаковую сустрэчу. Менавіта гэтая сустрэча і адбылася ў Сочы.

Зараз прэс-служба Лукашэнкі спрабуе нас пераканаць, што высокія бакі некалькі гадзінаў абмяркоўвалі павестку дня маючага адбыцца ў лютым Вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. У што верыць, пэўна, толькі сталая аўдыторыя БТ.

Што паабяцаў Пуцін Лукашэнку? Ці выдасць Масква новы крэдыт сінявокай? Ці атрымаем мы грошы? Адказ на гэта можна знайсці ў апошніх дзеяннях вышэйшага дзяржаўнага кіраўніцтва.

Па-першае, Лукашэнка заявіў, што «прэзідэнт Расіі і прэмʼер не толькі паабяцалі, але прынялі рашэнне аб падтрымцы, як бы ні было складана ў Расіі, эканомікі Беларусі». Аднак засталося невядомым, якія рашэнні адносна падтрымкі эканомікі Беларусі былі прынятыя. Зазвычай, беларускі кіраўнік хваліцца сваімі дасягненнямі, называючы пэўную колькасць грошай. Як гэта было, напрыклад, у маі 2014 года, калі таксама выйшла абвастрэнне з выдачай грошай: тады Лукашэнка агучыў дамоўленасць на двухмільярдны крэдыт. Зараз пра канкрэтную суму — маўчок.

Па-другое, нешта Пуцін усё ж такі паабяцаў, бо раней беларускае кіраўніцтва ледзьве не сцялілася перад МВФ. Пасля візіту ў Сочы рыторыка ў дачыненні да гэтага фонду крыху змянілася. На сустрэчы з кіраўніком МЗС Уладзімірам Макеем 8 лютага Лукашэнка адзначыў, канешне, што МВФ не ўносіць Беларусі незразумелыя і непатрэбныя прапановы, і «мы будзем рэалізоўваць іх прапановы, як бы ні было складана». Аднак у той жа час адзначыў, што «весці перамовы з імі трэба з улікам нашых пазіцый... Калі пойдуць на падтрымку Беларусі, пра якую мы запытвалі, — дзякуй, не пойдуць, значыць, не пойдуць».

Па-трэцяе, кіраўнік Беларусі даручыў Макею ўзмацніць працу па засваенні кітайскага фінансавання ў аб'ёме 7 мільярдаў долараў, які выдаткоўваецца пад звязаныя праекты.

І чацверты момант. Нароўні з тым, што казалася, можна ацэньваць і тое, што не казалася. Напрыклад, нідзе — ні ў расійскіх СМІ, ні ў беларускіх — не было агучана, а чаго ж Расія захацела і атрымала ўзамен на «рашэнне падтрымаць беларускую эканоміку». У нас багата ёсць чаго прадаць: магчымая расійская авіябаза, падтрымка Расіі ў пытаннях санкцыяў з Еўропай, адмена зоны свабоднага гандлю з Украінай (Масква гэта зрабіла, сінявокая — не), і гэтак далей. Можна нават глытнуць нейкую таблетку, што стымулюе працу мозга, і ўзгадаць пытанне прызнання Абхазіі і Паўднёвай Асеціі.

Вось пра ўмовы Расіі ў абмен на падтрымку — ані слова. Чаму?

Хутчэй за ўсё, Пуцін і Мядзведзеў, з якімі Лукашэнка сустракаўся ў Сочы, сапраўды




> **Мы павінны выплаціць па крэдытах 3,3 мільярда долараў**

паабяцалі і прынялі рашэнне пра нейкую падтрымку беларускай эканомікі. Але гэтыя рашэнні, насуперак чаканням, гэтым разам былі, так бы мовіць, «не грашовымі». Магчыма, разглядаўся нейкі спрошчаны доступ беларускіх тавараў на расійскі рынак, магчыма, абмяркоўвалася падзенне ўзаемнага таваразвароту. Можа быць, у гэтым былі дасягнутыя «рашэнні аб падтрымцы беларускай эканомікі». Але насамрэч, эканоміку гэта не ўратуе. Попыт на беларускую прадукцыю знізіўся таму, што ў Расіі самой скончыліся грошы, і яна зараз лічыць кожны долар. А таму тройчы падумае, «купляць беларускае» альбо больш якасныя іншыя тавары, якія завозяцца туды ў межах Сусветнай гандлёвай арганізацыі. У якую мы, дарэчы, так і не ўступілі.

Лукашэнку ж патрэбныя жывыя грошы. У гэтым годзе мы павінны выплаціць па ранейшых крэдытах 3,3 мільярда долараў. На 1 лютага ўсе ЗВР Беларусі, падлічаныя па метадыцы МВФ, склалі $4 мільярды. То бок, нам ледзь-ледзь хопіць расплаціцца па даўгах за гэты год, а ў 2017-м прыйдзецца абвясціць дэфолт краіны.

Таму грошы жыццёва неабходныя. І, прычым, у купюрах, а не ў магчымасцях. А да гэтага сочынскія дамоўленасці, відаць, не дайшлі.

Магчыма, што ў Сочы былі агучаныя патрабаванні і ўмовы бакоў. Аляксандр Рыгоравіч выказаў Уладзіміру Уладзіміравічу, колькі і на якіх умовах ён бы хацеў атрымаць. А Уладзімір Уладзіміравіч выказаў Аляксандру Рыгоравіч, колькі і на якіх умовах ён згодны даць. Тым больш, што ў Расіі самой з грошамі напружана. На гэтым высокія дамоўныя бакі разʼехаліся па сваіх вотчынах — думаць далей. Каб выпрацаваць кампраміснае рашэнне, што, магчыма, будзе прынятае на тым самым ВДС Саюзнай дзяржавы, пасяджэнне якога павінна адбыцца цягам гэтага месяца.

12 лютага 2016 | № 6 (471) Новы Час

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Чарнавус правёў несанкцыянаваны адзіночны пікет

**Індывідуальны прадпрымальнік, грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус правёў адзіночны пікет з заклікам да жыхароў рэгіёну, якія засталіся без працы, выказаць недавер Аляксандру Лукашэнку.**

Акцыя прайшла 8 лютага з 11.30 да 12.30 на пляцоўцы ў старым гарадскім парку культуры і адпачынку, вызначаным гарвыканкамам у якасці месца для масавых мерапрыемстваў.

Паводле слоў Чарнавуса, ён выйшаў на пікет з плакатам «Мы страцілі працу! Пры камуністах я двойчы губляў працу. Ведаю, што, калі чалавек застаўся без грошай, яму не даюць дыхаць, ён здольны на суіцыд». Чарнавус заклікаў беспрацоўных і «дармаедаў» выказаць недавер Лукашэнку. «Заяўку на пікетаванне не падаваў, у мяне не было часу на гэта. Пасля акцыі, якая прайшла без інцыдэнтаў, павесіў плакат на дрэве», — сказаў ён.

Чарнавус падкрэсліў, што 1 студзеня на рынках горада прыпыніла працу большасць прадпрымальнікаў.

**БелаПАН**

### МАГІЛЁЎ. ТБМ уганаравала пераможцаў інтэлектуальнага спаборніцтва

**Таварыства беларускай мовы адзначыла пераможцаў інтэлектуальнага спаборніцтва «Беларускае пяціборства».**

Сёлета яго пятнаццаты раз праводзіла Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ пры спрыянні дзяржаўнага ўніверсітэту імя Куляшова. Спаборнікі, удзельнікі школьных прадметных алімпіяд, адказвалі на беларускай мове на пытанні па матэматыцы, прыродазнаўстве, гісторыі, літаратуры і мове. Якасць мовы ўлічвалася пры падвядзенні вынікаў.

Першае месца заняў Ілля Касакоў з 21-й магілёўскай школы. Арганізатары адзначылі, што ў хлопца найлепшая з усіх спаборнікаў «Пяціборства" беларуская мова. Другое месца з добрымі матэматычнымі ведамі заняла навучэнка бабруйскай гімназіі №3 Ангеліна Жыркевіч. Трэцяе — у ейнай зямлячкі з бабруйскай гімназіі №1 — Ангеліны Бялясавай. Прыхільнік класічнага беларускага правапісу з Мсціслаўскай гімназіі Мацвей Дашкевіч атрымаў спецыяльны прыз за найлепшыя веды па гісторыі. Елізавета Багачова засведчыла найлепшыя веды па прыродазнаўстве і займела за гэта таксама спецыяльны прыз.

Ініцыятар спаборніцтва Міхась Булавацкі адзначыў: «Сярэдні ўзровень — гэта адна памылка на дванаццаць-трынаццаць слоў. Як можна за дзве гадзіны вывучыць мову, якой у жыцці не карыстаешся ні ў сям'і, нідзе. Беларускай матэматычнай мове ў школе не вучаць зусім. Школьнікі не ведаюць, як па-беларуску завуцца расліны, матэматычныя тэрміны. Удзельнікі «Пяціборства» пачынаюць ствараць беларускую мову самі. Адчуваюць, што рускае слова не тое, як беларускае, і прыдумляюць пераклад. Некаторыя папулярныя словы я збіраю нават. Для расійскага слова «касательная» ёсць 11 варыянтаў перакладу дзяцей на беларускую мову».

**«Радыё Свабода»**

### ГОМЕЛЬ. Прадпрымальнік перавёў бізнес на беларускую мову

**Дырэктар кампаніі «Будмаркет ТэрмаДэкор» Вадзім Мартыненка, каб выйсці у крызіс, перавёў сваю кампанію на беларускую мову. На сваёй старонцы ў сацсетцы Facebook ён зрабіў запіс аб тым, што цалкам перавядзе свой бізнес на беларускую мову: ад шыльдаў і цэннікаў, да зносін з кліентамі і рэкламы.**

«Пасля таго, як мой пост у Facebook на гэтую тэму набраў некалькі сотняў «лайкаў», на мяне абрынулася лавіна прапаноў аб дапамозе, паведамленняў з матывацыяй, адабрэння, я зразумеў, што гэта — правільнае рашэнне, і яно і было, па сутнасці, Рубіконам. Сёння для мяне гэта проста свята для душы! Упэўнены, любы пазітыў прыносіць для бізнесу добры вынік. У сённяшняй сітуацыі жорсткага эканамічнага крызісу гэта моцна дапамагае: і канкрэтная дапамога ад незнаёмых або малазнаёмых табе раней людзей, і нават проста — адабрэнне і заахвочванне. Я бачу, што адсоткаў семдзесят нашых людзей, свядома ці не, замілоўвае сутыкненне з «роднай мовай», акунанне ў яе. Прыкладна 20% — абыякавыя. Ну а да астатніх дзесяці ўжо абыякавы я, хай ідуць сабе з мірам», — расказаў ён.

«Мова — гэта вялікі штуршок сёння ў бізнесе, за кошт мноства фактараў. Усё тут выверана, абдумана і ўсвядомлена, і поспех гарантаваны! Па-іншаму і быць не можа», — падкрэслівае бізнесовец.

**Паводле Gomel.today**

# У Андрэя Бандарэнкі ўзніклі праблемы з перапіскай

Сяргей ПУЛЬША

**У праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі, які знаходзіцца ў магілёўскай турме №4, узніклі праблемы з перапіскай. Пра гэта ён паведаміў у лісце «Новаму Часу».**

Як піша Бандарэнка, зараз ён знаходзіцца ў адзіночнай камеры «падалей ад іншых зняволеных». Па ягоным меркаванні, прычынай гэтага былі два лісты на імя жонкі Мікалая Статкевіча Марыны Адамовіч і на імя Міхаіла Пастухова. «У лісце Міхаілу Іванавічу я даў адзнаку дзейнасці маіх былых калегаў па праваабарончай арганізацыі «Платформа», падкрэсліўшы як фармалізм у здзяйсняемым імі маніторынгу месцаў пазбаўлення волі, так і сам факт выкарыстання імя «Платформы» ў Савеце ААН па правах чалавека вясною мінулага года», — напісаў вязень.

Пры гэтым Бандарэнка адзначыў, што пасля ягонага арышту і арышту заснавальніка «Платформы» Міхаіла Жамчужнага, змены ў палітыцы арганізацыі і рэжым «найбольшага спрыяння» арганізацыі з боку ўладаў выклікаюць «цалкам абгрунтаваныя сумненні ў бесстаронасці» кіраўніцтва «Платформы».

Гэты ліст турэмная цэнзура не прапусціла з прычыны наяўнасці ў ім «цынізму», піша Бандарэнка. З той жа прычыны «цынізму» не было прапушчанае і віншаванне Мікалаю Статкевічу і Марыне Адамовіч.

Апроч гэтага ён піша, што перасылка газет звычайным лістом у Магілёўскай турме не дазволена, нягледзячы на тое, што заканадаўства гэта не забараняе. Тым не менш, у выглядзе выключэння ён двойчы атрымліваў «Новы Час», але яго папярэдзілі пра асаблівасці перасылкі прэсы.

Бандарэнка паведамляе, што ў турме Магілёва ён будзе знаходзіцца да канца свайго тэрміна, што яго зусім не засмучае. «Тут нарэшце быў пакладзены канец гісторыі з Бабруйскімі правакацыямі і ўсімі «статусамі»... У выніку я зноўку ў прыемнай кампаніі з самім сабою. Умовы цалкам прымальныя: нармальны свет, паветра, цалкам нармальнае харчаванне. І адзіноцтва больш спрыяе працы і самаадукацыі», — зазначае Бандарэнка.

Андрэй Бандарэнка быў стваральнікам і кіраўніком інфармацыйна-асветнай установы «Платформа» і культурна-асветнай установы «Платформ інавейшн», якія займаліся абаронай правоў чалавека ў месцах пазбаўлення волі. 12 жніўня 2014 года ён быў асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі нібыта за хуліганства. У папраўчай калоніі № 2 Бабруйска ў яго ўзніклі сур'ёзныя канфлікты са зняволенымі, у сувязі з чым праваабаронцу перавялі ў Шклоў. Аднак і ў шклоўскай калоніі яму прысвоілі гэтак званы «нізкі статус». Бандарэнка неаднаразова прасіў адміністрацыю калоніі змясціць яго ў бяспечнае месца. Такім месцам, як правіла, быў штрафны ізалятар.

У Магілёўскую турму Андрэя Бандарэнку перавялі як злоснага парушальніка рэжыму на падставе рашэння суда Шклоўскага раёна ад 17 снежня 2015 года.

# З крымінальнікаў — у кіраўнікі

Генадзь КЕСНЕР

**Улада пачала выкарыстоўваць цікавы метад кіраўніцтва стратнымі прадпрыемствамі — памілаванне былых чыноўнікаў ці ўпраўленцаў ды хуткае прызначэнне на адказныя пасады. Ад пачатку года мы маем ужо некалькі такіх прыкладаў.**

Экс-дырэктара Бабруйскага мясакамбіната Віктара Хадасевіча днямі прызначылі выканаўцам абавязкаў старшыні сельскагаспадарчага кааператыву «Ліпаўка» (Хоцімскі раён Магілёўскае вобласці).

У маі 2015-га Бабруйскі суд прыгаварыў Хадасевіча да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і штрафу ў 18 мільёнаў рублёў за «замах на крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненым групай асобаў па папярэдняй змове». Пры гэтым экс-дырэктар на тры гады пазбаўляўся права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў.

Але Хадасевіч быў не першы, а магчыма, і не апошні.

У студзені быў датэрмінова вызвалены былы першы намеснік генеральнага пракурора краіны Аляксандр Архіпаў, якога адразу ж прызначылі дырэктарам сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства «Пятровічы» (Смалявіцкі раён Мінскай вобласці).

У 2014 годзе Архіпаву прысудзілі шэсць гадоў пазбаўлення волі за злоўжыванне службовым становішчам і атрыманне хабару.

Таксама ў студзені эксікіраўнік Чашніцкай раённай вертыкалі (Віцебская вобласць) Уладзімір Булай быў прызначаны дырэктарам ААТ «Кляновічы» (Крупскі раён Мінскай вобласці). Хаця толькі ў верасні 2015 года Генпракуратура завяла на Булая крымінальную справу за выкарыстанне службовых паўнамоцтваў, прымус розных арганізацыяў і прадпрыемстваў раёна да перадачы яму і ягоным сямейнікам грошай і да бясплатнага аказання паслугаў.

2 лютага стала вядома, што датэрмінова вызвалілі і прызначылі выканаўчым дырэктарам па вытворчасці прадпрыемства «Будмашына» (Магілёў) Андрэя Усава.

Былы дырэктар «Магілёўдрэва» 1 ліпеня 2014 года быў прыгавораны да 8 (!) гадоў пазбаўлення волі за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, службовы падлог, раскраданне, нанясенне ўрону ў буйным памеры.

Што тут сказаць?

«Наколькі я разумею, Лукашэнку вельмі падабаецца распараджацца лёсамі людзей, — лічыць палітолаг Валеры Карбалевіч. — Зараз кажуць, што дэпутаты яго аб гэтым папрасілі. Магчыма, і так, але яму вельмі падабаецца, калі да яго звяртаюцца з просьбай, пішуць чалабітную, і вось ён вырашае, каго вызваліць, а каго не вызваліць. Па-другое, у момант крызісу назіраецца сур'ёзны дэфіцыт людзей, якія гатовыя ўзначаліць прадпрыемствы, асабліва нерэнтабельныя. І тут вось знайшлі спосаб — вызваляць і прызначаць людзей, якія не адмовяцца, і пры гэтым, дарэчы, будуць вельмі старацца. Бо іх статус не вызначаны, іх можна ўзяць за каўнер і адправіць за краты. Вось такая спроба вырашэння праблемы».

Па словах Валерыя Карбалевіча, тут не толькі ў тым, што скончылася лаўка запасных. Людзі ўвогуле не жадаюць ісці на кіроўныя пасады.

«У крызіс прадпрыемства, якое працуе кепска, ператварыць у прадпрыемства, што працуе добра, немагчыма ў прынцыпе. Але вельмі лёгка апынуцца ў вязніцы, бо крок налева — крок направа — і цябе тут жа прыцягнуць і пасадзяць. Бо любыя прававыя нормы можна трактаваць «гумава», як гэта робяць нашы праваахоўныя органы. Таму, магчыма, і ёсць людзі, якія былі б гатовыя гэта рабіць, але яны не хочуць», — лічыць Карбалевіч.

Валеры Карбалевіч не выключае, што яшчэ ёсць былыя чыноўнікі і кіраўнікі за кратамі, якія найбліжэйшым часам могуць выйсці на волю і ўзначаліць прадпрыемствы ці калгасы.

«Аднак, ёсць вялікая кагорта кіраўнікоў, якіх судзілі і якія не прызналі сваёй віны. Напрыклад, кіраўнік «Белкаапсаюза» Сядзько, якому далі 8 гадоў зняволення. Нядаўна судзілі намесніка міністра лясной гаспадаркі Лісіцу, які таксама не прызнаў сябе вінаватым. Ёсць і іншыя прыклады. Але калі чалавек не прызнаў сваёй віны, то як яму пісаць чалабітную? Таму тут складана даваць нейкія прагнозы. Па-першае, чалавек павінен адседзець пэўны час, па-другое, кампенсаваць страты сваімі грашыма, па-трэцяе, напісаць заяву з просьбай аб памілаванні. Таму прадказаць тут нешта цяжка», — падсумаваў эксперт.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Лічбавы выбух

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Наша краіна ў сацыяльным плане застыла. Але ў тэхналагічным рухаецца сямімільнымі крокамі. І калісьці гэты дысбаланс выбухне.**



На тыдні працягнулася «баданне» прадпрымальнікаў з уладай. Падаецца, пакуль Лкашэнка катаўся на лыжах у Сочы, да нечага дамовіліся. Але кіраўнік дзяржавы зноўку абвастрыў гэтае пытанне.

8 лютага адбылося першае пасяджэнне рабочай групы па праблемных пытаннях дзейнасці ІП у межах Грамадска-кансультацыйнага савета пры Міністэрстве эканомікі, у склад якой увайшлі кіраўнікі бізнес-саюзаў, члены саветаў прадпрымальнікаў рынкаў Мінска і рэгіёнаў. Кіраўнік прадпрымальніцкай арганізацыі «Перспектыва» Анатоль Шумчанка сам факт такога пасяджэння ацаніў вельмі станоўча. «Пачаўся дыялог, і мы пачулі, што ёсць вялікае жаданне ў чыноўнікаў гэтую праблему вырашыць», — сказаў ён.

У сувязі з гэтым «Перспектыва» нават адклікала сваю заяўку на правядзенне 15 лютага мітынгу ў Мінску. «Асноўны матыў такога рашэння — гэта дасягненне першачарговай мэты: пачатак дыялогу, якога не было ў ІП з урадам апошнія шэсць-сем гадоў, што прывяло да той крызіснай сітуацыі, у якой знаходзіцца бізнес сёння, а менавіта страты магчымасці працаваць», — гаворыцца ў заяве аб'яднання.

У сувязі з пачаткам перамоваў знікла неабходнасць «у выкарыстанні такога інструмента, як мітынг». «Мы хацелі быць пачутымі — нас пачулі! Сёння ўжо можна смела канстатаваць: улада прызнала, што ў ІП не «адпачынак ці навагоднія святы», а сур'ёзныя праблемы, якія трэба вырашаць у любым выпадку», — лічаць у арганізацыі.

Але Аляксандр Лукашэнка, прымаючы з дакладам міністра гандлю Беларусі Уладзіміра Калтовіча, запатрабаваў прыняць меры «для працы ў роўных умовах усіх гандлёвых структур», не звяртаючы ўвагі на незадаволенасць іпэшнікаў. «Рабіце так, каб і дзяржаўны гандаль, і прыватны, замежнікі і свае былі ў роўных умовах. І не глядзіце на забастоўкі нейкіх іпэшнікаў ці яшчэ кагосьці. Мы дакладна дамовіліся летась. Мы не пацаны, каб нас вадзіць за нос, тым больш мяне. Мы дамовіліся — у гэтым ключы трэба дзейнічаць», — цытуе Лукашэнку БелТА.

Кіраўнік Беларусі традыцыйна абвінаваціў ІП у тым, што яны «загубілі лёгкую прамысловасць». «Тыя, хто завозяць сюды рознага роду рыззё (і нават добрай якасці, калі б гэта было з Турцыі, Кітая, Расіі і іншае), трэба разумець: усё, што мы завезлі да сябе адтуль, мы настолькі ж загубілі сваю эканоміку, лёгкую прамысловасць. Не будзе яна развівацца. Тым больш без дакументаў, без сертыфікатаў. Слухайце, гэта ж мы ўзаконьваем бандытызм, злачынцаў! Адных ловім, саджаем, а іншым дазваляем», — заявіў ён.

«Рыззё добрай якасці» — «гэта, канешне, крута. Але на месцы кіраўніка дзяржавы я б пацікавіўся ў Легпрама, чаму гэтая галіна не можа наладзіць вытворчасць такога ж рыззя — добрай якасці і па прымальных коштах. Самі чыноўнікі ходзяць у строях, канешне, не набытых на рынку, але і далёка не вытворчасці «Камінтэрну».

Але і ў гэтым Анатоль Шумчанка чамусьці ўбачыў добры знак. Па ягоным меркаванні, гэта сведчаць, што Лукашэнка пачуў ІП і трымае сітуацыю на кантролі. А да выказванняў беларускага правадыра трэба ставіцца спакойна, лічыць Шумчанка.

**Ці ўдасца ўладам папярэджаннямі і пастановамі тармазнуць тэхналагічны прагрэс? На перамогу чыноўніцтва я б грошай не паставіў...**

А пакуль усе сочаць за серыялам «ІП — Лукашэнка», у краіне адбылася маленькая тэхналагічная рэвалюцыя. Тэхнічны дырэктар аператара сотавай сувязі Velcom Крысціян Лаке агучыў канец эпохі GSM-сувязі ў краіне. Гэты канец прыйдзе ў наступным годзе.

«Гісторыя GSM у Беларусі налічвае больш за 17 гадоў, але ў найбліжэйшыя два-тры гады яе могуць канчаткова выцесніць тэхналогіі трэцяга пакалення», — піша некралог стандарту GSM аператар сувязі. Гэта адбываецца з-за пашырэння пакрыцця 3G-сеткі, даступнасці шырокапалоснага мабільнага інтэрнэту і рост колькасці сучасных мабільных прылад. «Апошнія два гады абаненты масава «мігруюць» з GSM на 3G», — растлумачыў тэхдырэктар Velcom.

Цяпер больш за палову (2,5 млн.) абанентаў Velcom валодаюць смартфонамі, планшэтамі і ноўтбукамі з падтрымкай UMTS-900. Да канца 2017 года іх доля можа дасягнуць 70–80%, што і адзначыць канец эпохі GSM і паставіць пытанне аб далейшым развіцці гэтай тэхналогіі. Абодва стандарты выкарыстоўваюць адзін і той жа дыяпазон (900 Мгц), аднак ёмістасць базавай станцыі ў UMTS-900 удвая вышэйшая, чым у GSM-900.

Паводле ацэнак аператара, змена пакаленняў мабільнай сувязі можа заняць у Беларусі каля двух гадоў. У той жа час velcom працягне падтрымліваць стандарт GSM, пакуль у сетцы будуць абаненты, якія яго выкарыстоўваюць. «Трэба ўлічваць інтарэсы таго сегмента аўдыторыі, якому дастаткова звычайнага мабільнага тэлефона і галасавога трафіку. Але гэта факт: попыт упэўнена ссоўваецца ў бок дата-трафіку і сервісаў, заснаваных на магчымасцях 3G-сеткі», — зазначыў Крысціян Лаке.

Што гэта значыць? Гэта значыць, што людзі атрымліваюць больш інфармацыі незалежна ад месца свайго знаходжання. Гэта значыць, што яны ацэньваюць гэтую інфармацыю, і самі робяць высновы. Гэта значыць, што дзяржаўная прапаганда прайграе «інфармацыйную вайну», бо ў свой час не ацаніла магчымасці інтэрнэту.

Але даганяць сучаснасць чыноўнікі, падаецца, не збіраюцца. Так, кіраўніца Мінінфармацыі Лілія Ананіч у тэлепраграме «Клуб рэдактараў» заявіла, што інфармацыйная прастора Беларусі не будзе арэнай, дзе распальваюцца жарсці і дэструктыўныя працэсы. «Мы зробім усё для таго, каб гэтага не адбылося. Інтэрнэт прыўнёс у дзейнасць журналіцкай супольнасці вялікі разбуральны складнік», — сказала Ананіч.

Па словах Ананіч, у 2015 годзе міністэрствам было прынята 41 рашэнне аб абмежаванні доступу да інтэрнэт-рэсурсаў, вынесена 36 папярэджанняў СМІ. «Гэтая праца будзе працягнутая. Будуць задзейнічаны ўсе механізмы для таго, каб інфармацыйная прастора Беларусі служыла сваёй краіне і кансалідацыі грамадства», — рэзюмавала Ананіч.

Вось гэтае супрацьстаянне будзе значна цікавейшае, чым ІП з Лукашэнкам. Ці ўдасца ўладам папярэджаннямі і пастановамі тармазнуць тэхналагічны прагрэс? Альбо чыноўнікаў проста расплюшчыць патокамі свабоднай інфармацыі? На перамогу чыноўніцтва я б грошай не паставіў...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алег Трусаў

**Арыгінальнае рашэнне «праблемы Полацка» знайшоў кіраўнік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Ён прапанаваў перанесці ў гэты горад сталіцу краіны.**

Пра гэта Алег Трусаў заявіў у інтэрв'ю «Радыё Свабода». «Ёсць іншая ідэя — ініцыяваць перанясенне сталіцы Беларусі ў Полацк. Мы будзем пісаць адпаведны зварот да ўлады ў гэтай нагоды. Калі перанесці сталіцу, то можна злучыць Полацк і Наваполацк у адзін горад. Зрабіць новую адміністрацыйную плошчу і назваць яе імем Францыска Скарыны», — прапануе Трусаў.

«Трэба вярнуць сталіцу туды, дзе яна была раней. Інакш мы не зможам спыніць рост мінскага мегаполіса. Трэба зрабіць тое, што зрабілі казахі і бразільцы, — перанесці сталіцу з вялікага горада ў маленькі. Тым больш, што нам не трэба будаваць новы горад, у нас ёсць старажытная сталіца — Полацк. Гэта быў бы самы лепшы падарунак на 500-годдзе беларускага кнігадрукавання», — сказаў Трусаў.

Варта адзначыць, што ўказам Лукашэнкі №27 ад 14 студзеня 2013 года Полацк быў пераўтвораны ў раённы цэнтр. Былі скасаваныя гарсавет, гарвыканкам, гарадскі аддзел культуры і іншыя ўстановы, якія падтрымлівалі гістарычную ролю Полацка і яго турыстычны патэнцыял. Зараз беларусы стварылі ў інтэрнэце петыцыю за вяртанне Полацку статусу горада.



## Аляксей Янукевіч

**Кіраўнік Партыі БНФ моцна пакрыўдзіўся на экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Мікалая Улаховіча і збіраецца падаць на яго ў суд.**

Выступаючы 6 лютага ў Мінску на пазачарговым, сёмым, вялікім крузе казакоў, вярхоўны атаман грамадскага аб'яднання «Беларускае казацтва» Улаховіч заявіў: «Як ніколі нашай радзіме Беларусі неабходныя спакой і вытрымка, а не хаос і лжэдэмакратыя, якія спарадзілі ІДІЛ на Блізкім Усходзе ці нешта яму падобнае... Але ў нас ужо ёсць франты — БНФ, «Малады фронт», якія ў самы раз падобныя да ІДІЛ, імкнуцца да каляровай рэвалюцыі ў Беларусі».

«Відавочна, што гэта з'яўляецца часткай расійскай прапаганды. Мы бачым, як удзельнікаў украінскай рэвалюцыі расійскія СМІ і палітыкі неаднаразова называлі фашыстамі, экстрэмістамі і гэтак далей. Мы бачым, што цяпер разгортваецца інфармацыйная атака на Беларусь, — сказаў Янукевіч. — Патрыятычныя беларускія сілы, якія дзейнічаюць у адпаведнасці з заканадаўствам, выключна ў нацыянальных інтарэсах Беларусі, пачынаюць ачарняць, навешваць на іх цэтлікі».

«ІДІЛ — гэта тэрарыстычная арганізацыя. І, безумоўна, выкарыстанне назваў нашай арганізацыі і ІДІЛ недапушчальна. Мы праз суд будзем патрабаваць ад Улаховіча выбачэнняў і дэзавуявання гэтых заяў», — сказаў Янукевіч.



## Максім Рыжанкоў

**Памочнік Лукашэнкі па пытаннях фізічнай культуры і спорту, можа быць, адкрые ў Мінску спецыялізаваныя курсы англійскай мовы для трэнераў.**

Прынамсі, на пасяджэнні калегіі Мінспорту ён заявіў, што беларускія трэнеры арыентаваныя на Маскву, бо не ведаюць замежных моваў, нават англійскай. З-за праблем з англійскай ім недасяжная спартыўная методыка і літаратура іншых краін.

«Сённяшні прафесійны трэнер, які не валодае замежнай мовай, — гэта не спецыяліст. Таму што ўвесь англамоўны інтэрнэт — не для яго. Мы цяпер працягваем арыентавацца на рускамоўную літаратуру, гэта значыць, на Маскву. Мы не бачым, што адбываецца са спартыўнай методыкай у іншых краінах — у Германіі, у Вялікабрытаніі», — адзначыў памочнік Лукашэнкі.

Паводле яго слоў, у краіне немагчыма знайсці трэнера, «які змог бы звязаць пару слоў на англійскай і паразумецца». «Ці не можам знайсці начальніка каманды, які змог бы вырашыць канфліктную сітуацыю, што ўшчамляе інтарэсы нашых спартсменаў! Усе ведаюць, як папрасіць памыць рэчы і як разлічыцца за гасцініцу, але гэта — максімум слоўнікавага запасу!» — абурыўся Рыжанкоў.

Азбука паліталогіі

# Калі не ён, дык хто?



Сяргей НІКАЛЮК

**Сапраўды, хто, калі не ён, выдасць пенсіі і дапамогу, забяспечыць годны заробак?..**

У тым, што «тлустыя» гады засталіся ў мінулым, думаю, у Беларусі ўжо ніхто не сумняваецца. Афіцыйныя заявы наконт чарговага дасягнення «дна» эканамічнага крызісу сведчаць толькі пра неадэкватнасць аўтараў заяваў. Таму ўсё часцей гучаць пытанні пра магчымасць перарастання крызісу эканамічнага ў крызіс палітычны.

Наша масавая вера ў здольнасць быцця вызначаць свядомасць непахісная. Усе мы ў той ці іншай ступені сапсаваны марксізмам у яго савецкай трактоўцы. А калі так, дык быццю, што дэградуе на вачах, час гэту самую свядомасць і абудзіць.

Наколькі такія ўяўленні апраўданыя, я паспрабую разабрацца з дапамогай спецыяліста ў пытаннях рэвалюцый, паўстанняў і смутных часоў гісторыка Уладзіміра Булдакова.

У якасці першага «азбукавага» кроку неабходна вызначыць паняцці «ўлада» і «дзяржава». Улада ёсць вытворная ад народнага ўяўлення пра яе. Такім чынам, улада фармуецца народам (людской масай). Тое, як гэта адбываецца на практыцы, многія чытачы НЧ мелі магчымасць не толькі назіраць у 1994 годзе, але і непасрэдна ўдзельнічаць у працэсе яе фармавання.

Народ фармуе ўладу, але не дзяржаву. Дзяржава фармуе ўладу. У свядомасці традыцыйнага чалавека ўлада атаясамліваецца з першай дзяржаўнай асобай (царом, генеральным сакратаром, прэзідэнтам), а дзяржава — з чыноўнікамі. Улада сакральная. Калі першая асоба дзяржавы паўстане істотай такога ж парадку, што і чыноўнікі, дык народ можа супраць яе ўзбунтавацца.

Булдакоў вылучае сем стадый праходжання крызісу ўлады: этычны, ідэалагічны, палітычны, арганізацыйны, сацыяльны, ахлакратычны і рэкрэацыйны. Зразумела, гэта ідэальная схема. На практыцы ўсе кампаненты крызісу дзейнічаюць адначасова, але з рознай інтэнсіўнасцю.

### Gloria mundi яшчэ не прайшла

Этычны кампанент крызісу найбольш цяжка вызначыць сацыялагічна. Між тым, смутныя часы не магчымыя без свайго роду грэхападзення ўлады.

Каб не паглыбляцца ў гісторыю, звернемся да яе савецкага перыяду. Этычны кампанент крызісу стымулявала хрушчоўская авантура пабудовы камунізму. Свой унёсак зрабіла і выкрыццё культу асобы Сталіна. Ужо да сярэдзіны 70-х гадоў вера ў амаральнасць «слуг народа» стала масавай. Калі казаць сучаснай мовай, у грамадстве склаўся кансенсус наконт двух відаў камуністаў. Яны маглі быць альбо сумленнымі дурнямі (меншасць), альбо разумнымі нягоднікамі (абсалютная большасць).

Глыбіню разлажэнне сістэмы сімвалізавалі антысавецкія анекдоты. Іх стварэнне народ паставіў на паток. Яны карысталіся папулярнасцю на ўсіх узроўнях сацыяльнай іерархіі, у тым ліку і на вышэйшым.

Па меры развіцця агульнага крызісу неадэкватнасць першых асоб дзяржавы рабілася ўсё больш відавочнай. Як тут ні прыгадаць Міхаіла Гарбачова з яго размовамі пра «сацыялістычныя каштоўнасці» і «ідэалы Кастрычніка».

Найважнейшая функцыя персаніфікатара сакральнай улады — апраўданне масавых ілюзій. У 1988 годзе, паводле Усерасійскага цэнтру вывучэння грамадскай думкі (ВЦИОМ), пры адказе на пытанне пра «чалавека года» пазаканкурэнцыйна апынуўся Гарбачоў — 51%. Але ўжо ў 1992 годзе яго папулярнасць апусцілася да 1%! Sic transit gloria mundi (Так сыходзіць слава свету). Лепшай ілюстрацыі да афарызму нямецкага філосафа-містыка XV стагоддзя Фамы Кейпійскага, мабыць, і не знайсці.

А што мы маем сёння ў Беларусі? Электаральны рэйтынг АП (адзінага палітыка) у снежні 2015 года склаў 33% (НІСЭПД). Сярэдняе значэнне за мінулы год — 37%. Прыстойны паказчык, калі ўлічыць, што ў 2003 і 2011 гадах сярэдняе значэнне рэйтынгу складала 29%.

> **Народ фармуе ўладу, але не дзяржаву. Дзяржава фармуе ўладу. У свядомасці традыцыйнага чалавека ўлада атаясамліваецца з першай дзяржаўнай асобай (царом, генсекам, прэзідэнтам), а дзяржава — з чыноўнікамі**

Масавая ілюзія беларусаў — гэта вера ў здольнасць улады вырашаць усе праблемы. Адсюль знакамітая максіма: «Калі не ён, дык хто?!» Сапраўды, хто, калі не ён, выдасць дапамогу ды пенсіі, забяспечыць годны заробак... Спіс можна лёгка працягнуць.

Варта прызнаць, што да 2015 года ўлада свае сацыяльныя абавязкі ў асноўным выконвала. Аднак вышэй галавы не скочыш. Адкрыем перадвыбарчую праграму АП. Джэнтльменскі набор чарговых абяцанняў звёдзіцца да захавання стабільнасці і парадку. «І гэта ўсё?» Тут я цытую знаёмую жанчыну, якая атрымала ад мяне 8 сакавіка букет з трох гваздзікоў. Не, не ўсё. Улада выказала пажаданне не «страціць тое, што ўжо дасягнута».




У аптымізме ўладзе не адмовіш. Вось толькі верагоднасць рэалізацыі пажадання блізкая да нуля. Тым не менш канстатаваць надыход першага (этычнага) кампанента крызісу я б не наважыўся. Але трэнд у напрамку грэхападзення, сфармаваны самой уладай, ужо выразна праглядаецца.

### Апытанні разварот не фіксуюць

Ідэалагічны складнік крызісу звязаны з афармленнем альтэрнатывы існуючай форме праўлення.

Гісторыя мае мноства прыкладаў фармавання ідэалагічных альтэрнатыў. Звернемся да эпохі Пятра І. «Людзі, камандзіраваныя ўрадам дзеля засваення патрэбных яму ведаў, прывозілі з сабой лад думак, зусім яму не патрэбны, і нават небяспечны... — пісаў гісторык Васіль Ключэўскі. — Супраць урада, які змагаецца са сваёй краінай, стаў адукаваны за кошт ураду патрыёт, які не верыць ні ў сілу асветы, ні ў будучыню сваёй айчыны».

Негатыўны гістарычны вопыт фармавання патрыётаў за кошт урада ў Беларусі засвоены. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова нават павярхоўна азнаёміцца з праблемамі, з якімі сутыкнулася рэспубліка-партызанка пры ўступленні ў Балонскі працэс. Уступіць яна ўступіла, але з агаворкамі, афармленымі ў выглядзе дарожнай карты. Ёсць вялікія сумневы ў тым, што да 2018 года ў пытаннях правоў студэнтаў і аўтаноміі ўніверсітэтаў адбудуцца прыкметныя зрухі.

На думку АП, «дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі не менш, чым у іншых. <...> І самае галоўнае — гэта права жыць». Усё правільна. Правільныя студэнты-патрыёты ў іншых правах і не маюць патрэбы.

За адсутнасцю расійскіх універсітэтаў Пётр І быў вымушаны камандзіраваць падлеткаў шукаць веды ва ўніверсітэты Еўропы. Так сёння робяць усе паспяховыя краіны трэцяга свету. Толькі студэнтаў з Кітая ў амерыканскіх універсітэтах навучаецца каля 250 тысяч. Актыўна падтрымлівае навучанне сваіх студэнтаў за мяжой і адзін з заснавальнікаў Еўразійскага саюза Казахстан. Але беларуская мадэль у высокаадукаваных людзях не мае патрэбы — гэта адна з яе істотных асаблівасцяў.

У канцы XIX стагоддзя ідэалогіі ў жыцці народаў набылі якасці былых рэлігійных «эпідэмій». Ва ўмовах мадэрнізацыі чалавек стаў безабаронным перад інтэлектуальнымі вірусамі разнастайных ідэй, што здольныя прыводзіць у рух велізарныя чалавечыя масы. Вірусы, перанесеныя ў новы сацыяльны асяродак, перажывалі настолькі складаныя мутацыі, што часам ад якога-небудзь «прывіду камунізму» на практыцы мала што заставалася.

Адна з асаблівасцяў ідэалагічных бязладзіц на роднай глебе палягае ў няздольнасці ацвярэзіцца ад былога дактрынальнага шаленства. Адсюль тая лёгкасць, з якой беларусы адмовіліся ў канцы 80-х гадоў ад камуністычнай ідэалогіі на карысць дэмакратычных каштоўнасцяў. У 1994 годзе яны павярнуліся на 180 градусаў і гэтак жа дружна прагаласавалі за рэстаўрацыю «моцнай» дзяржавы на чале з «моцным» лідарам.

Якім можа быць чарговы ідэалагічны зігзаг? Выбар вельмі абмежаваны, і выбар гэты, хутчэй, абстрактны, чым рэальны. Стаміўшыся ад эканамічных цяжкасцяў, тыповы прадстаўнік беларускай «большасці» зноў павернецца тварам да Еўропы. На сённяшні дзень, аднак, спробаў такога развароту сацыялагічныя апытанні не фіксуюць.

### Баярскія «разборкі»

Сярод родных бяроз і асін палітычны складнік крызісу ў мінімальнай ступені адпавядае класічным паняццям палітычнага супрацьстаяння. У дачыненні да рэвалюцый і смутных часоў гэта прасцей назваць баярскімі «разборкамі».

Айчынная палітыка звязаная пераважна з супрацьстаяннем слабеючай уладзе, што з вялікім спазненнем набывае арганізацыйнае афармленне. У дзяржаве, пабудаванай па прынцыпе ўнітарнага прадпрыемства (УП «Беларусь»), наіўна было б чакаць іншага. «У нас выпрацавалася найбольш нізкая форма дзяржавы, вотчына, — пісаў ужо цытаваны вышэй Васіль Ключэўскі. — Гэта ўласна не форма, а сурагат дзяржавы». Для чытачоў, якія ўжо даўно не зазіралі ў падручнік гісторыі, нагадаю, што вотчына — гэта зямельнае валоданне, якое належыць феадалу паводле спадчыны. Вотчына — гэта комплекс, які складаецца з зямельнай уласнасці (зямлі, пабудоў і інвентару) і правоў на залежных сялян. У наш час аднымі сялянамі справа, натуральна, не абмяжоўваецца.

Пакуль уладальнік вотчыны моцны, гаварыць пра палітыку не даводзіцца. Трэба валодаць багатым уяўленнем, каб разглядзець яе ў афіцыйных выбарчых кампаніях, у тым ліку і ў прэзідэнцкай.

Уласна палітычная прастора ў Беларусі мінімізавана пытаннем: «Калі не ён, дык хто?». Гэта значыць, пытаннем пра вышэйшую ўладу, пытаннем пра ўладальніка вотчыны. Беспярэпынныя на працягу двух дзесяцігоддзяў спробы апазіцыі выбраць адзінага — наглядна ілюструюць справядлівасць гэтага сцвярджэння.

Выхад баярскіх «разборак» у публічную прастору — дакладная прыкмета фармавання палітычнага складніку крызісу. Як гэта адбываецца на практыцы, можна было назіраць на прыкладзе апошняга ў гісторыі СССР палітбюро, што раскалолася на прыхільнікаў Гарбачова і Лігачова.

Нешта падобнае з папраўкай на спецыфіку айчыннай мадэлі пачынае фармавацца сёння і ў Беларусі. У цэнтры публічнай дыскусіі, якая наспявае, — структурныя рэформы. Стаўленне да іх АП вельмі адмоўнае. Гэта не сакрэт. Тым не менш на «Кастрычніцкім эканамічным форуме» прадстаўнікі рынкавага крыла эканамічнага блока «вертыкалі» зрабілі шэраг заяваў, якія супярэчаць генеральнай лініі.

Праз тры дні ў сваім інаўгурацыйным выступе АП быў максімальна канкрэтны. Ён запярэдзіў, што будзе «рэзаць тых, хто гэта (рэформы. — С.Н.) прапануе».

**(працяг будзе)**

# Папярэджваючы стрэл

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Вядомы IT-бізнесовец Віктар Пракапеня, якога выпусцілі з СІЗА напрыканцы снежня, вярнуўся ў бізнес. Аднак ягоная справа не зачыненая, расследаванне працягваецца, хаця ён і пакрыў шкоду, у нанясенні якой яго абвінавачваюць. Тым часам іншыя IT-бізнесоўцы імкнуцца зразумець: які ж сігнал ім паслала ўлада.**




## Вяртанне Пракапені

У Беларусі працягнула працу кампанія EXP (Capital), што належыць вядомаму IT-бізнесоўцу Віктару Пракапеню. Больш за тое, фірма вярнулася ў свой ранейшы офіс на вуліцы Інтэрнацыянальнай. «Шмат якія скрыні ўжо распакаваныя, уся мэбля расстаўленая, і ў кава-машыну засыпана духмяная кава, а самае галоўнае — Віктар Пракапеня з намі! І мы пачынаем», — гаворыцца ў паведамленні EXP (Capital) у сацсетцы Facebook.

Нагадаю, што Віктар Пракапеня быў выпушчаны з СІЗА ўвечары 22 снежня; у зняволенні ён правёў дзевяць месяцаў. З часу вызвалення Пракапеня не меў стасункаў з журналістамі. Але, па словах знаёмых бізнесоўца, за час знаходжання ў СІЗА ён схуднеў на 20 кілаграмаў, прачытаў 150 кніг і быў шчаслівы пасля ўсяго перажытага апынуцца дома, з сям'ёй.

Між тым, Віктара Пракапеню «пакінулі на ланцужку»: яму змянілі меру спынення (ён адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе), але абвінавачванні з яго не знятыя. Кіраўнік прэс-службы Следчага камітэта Беларусі Сяргей Кабаковіч так пракаментаваў вызваленне бізнесоўца: «З улікам таго, што выкананыя асноўныя следчыя дзеянні па крымінальнай справе і Віктар Пракапеня цалкам пакрыў усю шкоду, мера спынення яму была зменена са згоды пракурора на не звязаную са знаходжаннем пад вартай».

Прадстаўнікі EXP (Capital) сцвярджаюць, што IT-бізнесовец плануе і далей займацца бізнесам у Беларусі. Між тым, яшчэ ў кастрычніку 2015-га з'явілася інфармацыя, што створаны Віктарам Пракапенем беларускі офіс распрацоўкі групы кампаній IG перазяджае ў Польшчу. «Кіраўніцтва паведаміла персаналу аб пераездзе ў Кракаў», — распавёў парталу TUT.by адзін з праграмістаў кампаніі "Ай-Джы Дэв". Яшчэ адна крыніца тады паведаміла, што неўзабаве пасля затрымання Віктара Пракапені яго брат Канстанцін і некалькі топ-менеджэраў кампаніі курсавалі паміж Мінскам, Лонданам і іншымі еўрапейскімі гарадамі, прымаючы рашэнне аб новым размяшчэнні офіса кампаніі.

Яшчэ ў 2006 годзе Віктар Пракапеня стварыў у Беларусі паспяховую кампанію «Viaden Media», якая займалася распрацоўкай праграм для мабільных гаджэтаў. Праз пяць гадоў кампанію купіў ізраільскі мільярдэр Тэдзі Сагі. На атрыманыя грошы Пракапеня стварыў інвестыцыйны фонд EXP (Capital), праз які ўклаўся ў дэвелоперскі бізнес, выкупіўшы шэраг будынкаў у цэнтры Мінска. (Па адной з першых версій, менавіта канфлікт вакол нерухомасці стаў прычынай арышту Пракапені.)

Аднак IT-бізнес Віктар Пракапеня не пакінуў, і ў 2014 года ў Мінску ён адкрыў офіс буйной групы брытанскіх фінансавых кампаній «IG Group».

Як паведамілі НЧ крыніцы ў IT-супольнасці, гаворка ішла аб распрацоўцы ў Беларусі праграм для аўтаматызацыі біржавога гандлю валютамі і каштоўнымі паперамі — так званых «біржавых робатаў». Гэты вельмі прыбытковы накірунак, які, аднак, для свайго развіцця патрабуе ўдзелу адмыслоўцаў з вельмі добрым веданнем матэматыкі.

Брытанскі холдынг рабіў вялікія стаўкі на беларускіх праграмістаў. Неўзабаве пасля адкрыцця ў беларускім офісе распрацоўкі «IG Group» працавала ўжо больш за 100 чалавек. Пад праект былі прыцягнутыя інвестыцыі ў памеры $4,7 мільёна. Але менавіта ў гэты момант Пракапеня патрапіў у поле зроку праваахоўнікаў па справе праграміста Аляксея Камка і неўзабаве быў арыштаваны.

## Ахвяра іншай справы

Аб затрыманні Віктара Пракапені стала вядома 3 красавіка 2015-га. Тады Следчы камітэт паведаміў, што, па яго дадзеных, «бізнесовец, які дзейнічаў у складзе арганізаванай групы, займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю ў сферы продажу IT-тэхналогій без адпаведнай дзяржаўнай рэгістрацыі як суб'екта гаспадарання. У выніку незаконнай дзейнасці ён атрымаў прыбытак у памеры 650 тысяч долараў». Неўзабаве Пракапені было прад'яўлена абвінавачванне па ч. 3 арт. 233 (Незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць, якая ажыццяўлялася арганізаванай групай, з атрыманнем прыбытку ў асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса РБ. Пазней з'явіліся падрабязнасці: маўляў, у перыяд з сакавіка 2005 года па красавік 2008-га Пракапеня сумесна са сваім падначаленым Аляксеем Камком займаўся незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю ў складзе арганізаванай злачыннай групы. А менавіта: размяшчаў у інтэрнэце сайты і рэкламу без дзяржаўнай рэгістрацыі.




Мае неафіцыйныя крыніцы ў беларускай IT-супольнасці паведамлялі крыху іншую версію. Па іх інфармацыі, Аляксей Камок, працуючы праграмістам у «Viaden Media», «падзарабляў» рэкламай замежных порнасайтаў. Па сутнасці, гэта пацвердзіў і Следчы камітэт, які паведаміў, што Камку і яго неназваным кампаньёнам атрымалася зарабіць больш за 700 тысяч долараў. Яму было прад'яўлена абвінавачванне па ч. 3 арт. 233 (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць) і ч. 2 арт. 343 (распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў) КК.

За гэта ў выніку Аляксея Камка суд Партызанскага раёна Мінска прызнаў вінаватым па ўсіх эпізодах абвінавачвання, прысудзіўшы яго да 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Суддзя Вольга Паўлоўская таксама пастанавіла спагнаць з яго Br12,6 мільярда шкоды і канфіскаваць сродкі з рахункаў асуджанага.

Але сам Пракапеня, на якога працаваў Камок, як лічыцца, не ведаў пра дзейнасць свайго падначаленага. Больш таго, аб гэтым жа самым (недатычнасці Пракапені) Аляксей Камок казаў і на следстве, і на судзе. Тым не менш, Пракапеню не толькі арыштавалі, але і пазней Следчы камітэт распачаў новыя крымінальныя справы — па арт. 243 (Ухіленне ад выплаты падаткаў). Па версіі следства, ад выплаты падаткаў бізнесовец ухіляўся ўжо пасля 2008 года. Цікавы момант: у Следчым камітэце сцвярджаюць, што Віктар Пракапеня сваёй віны не прызнаў і на супрацоўніцтва са следствам не пайшоў. Тым не менш, яго адпусцілі з СІЗА і дазволілі зноў заняцца ранейшым бізнесам. Чаму?

**Аляксей Камок, працуючы праграмістам у «Viaden Media», «падзарабляў» рэкламай замежных порнасайтаў. Па сутнасці, гэта пацвердзіў і Следчы камітэт**

## Меркаванне IT-супольнасці

Увесну рэакцыяй беларускіх IT-бізнесоўцаў і праграмістаў на арышт Віктара Пракапені стаў сапраўдны шок. Шмат хто прызнаваўся, што пачаў падумваць аб пераездзе за мяжу — бо кампутарным бізнесам, як і праграмаваннем, можна займацца з любой кропкі свету. Таксама шмат гаварылася аб тым, што наступствам «справы Пракапені» стала страта Беларуссю дзясяткаў і нават сотняў мільёнаў долараў замежных інвестыцый.

Больш таго, пасля арышту Пракапені ў Беларусі стараюцца не з'яўляцца топ-менеджары шэрагу буйных IT-кампаній — напрыклад, «EPAM Systems» (кіраўніцтва аддае перавагу весці справы з ЗША) або «Wargaming» (аддаюць перавагу Германіі і Кіпру, дзе нават купілі сабе ўласны банк). Прасцей кажучы, нізавыя праграмісты жывуць і працуюць у Беларусі, а іх кіраўніцтва — тыя ж грамадзяне Беларусі — за мяжой.

Што цікава, і вызваленне Віктара Пракапені, і яго вяртанне ў бізнес, беларускія IT-прадпрымальнікі імкнуцца не каментаваць «пад дыктафон».

Толькі самы вядомы IT-бізнесмен Беларусі, стваральнік партала TUT.by Юры Зісер дыпламатычна сказаў «Новаму Часу»: «Я рады, што ўсё супакойваецца і, калі меркаваць па запісах у Facebook, Віктар нарэшце можа вярнуцца да працы. Падобна, немалаважнае значэнне ў яго вызваленні адыгралі незалежныя медыя і наогул шырокая агалоска справы. Зрэшты, у інфармацыйнае стагоддзе схаваць арышт вядомых людзей не ўяўляецца магчымым».

Усе іншыя, з кім я гутарыў, даюць розныя версіі таго, што адбылося. Па адной, Пракапеню выпусцілі, каб захаваць у Беларусі вельмі «грашовы» бізнес «IG Group». У адваротным выпадку фінансавую кампанію ў Вялікабрытаніі чакалі вялікія непрыемнасці, і найперш — падзенне курсу акцый з-за нерэалізаваных праектаў. Гэта значыць, нельга выключаць, што брытанцы проста дыпламатычна папрасілі прэзідэнта, паабяцаўшы нешта наўзамен.

Іншая версія — больш глабальная. Паводле яе, уладам даўно не падабаецца растучая незалежнасць ад дзяржавы IT-бізнесоўцаў. Гэта людзі, якія зрабілі свае капіталы ўласнымі мазгамі, без бюджэтных грошай і прэферэнцый, з незалежным мысленнем, якія актыўна працуюць з замежжам. А значыць — патэнцыйна небяспечныя для ўлады. І ў гэтай сітуацыі «справа Пракапені» стала своеасаблівым «папераджальным стрэлам» для ўсяго беларускага IT-бізнесу. Маўляў, працуйце і зарабляйце, але ведайце сваё месца.

# Гісторыя аднаго кахання



Сяргей ШАПРАН

**Яны пражылі разам 55 гадоў. Аднойчы з ім здарыўся інфаркт — сэрца стаяла чатыры хвіліны, яго ледзь выратавалі. І хоць напярэдадні «залатога» вяселля яго аперыравалі, аднак ён хацеў зрабіць прыемнае той, якой прысвячаў найлепшыя лірычныя вершы, і таму адразу пасля аперацыі даў вялікае інтэрв'ю пра сваё юначае каханне, якое пранёс праз усё жыццё... Яго звалі — Генадзь Бураўкін, яе — Юля...**

Ішоў красавік 2009 года. Генадзю Бураўкіну, які ледзь не памёр прама ў Міністэрстве юстыцыі падчас абмеркавання пытання ліквідацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў, праз год пасля інфаркту зрабілі аперацыю на сэрцы — шунціраванне, і па першым часе ён нават шкадаваў, што пагадзіўся на гэтую аперацыю. Ён сам тады патэлефанаваў з бальніцы — сказаў, што 9 мая будзе 50 гадоў, як яны з Юліяй Якаўлеўнай разам. Дадаў, што быў бы рады, каб я напісаў нешта з гэтай нагоды. Нават будучы ў цяжкім стане, Генадзь Мікалаевіч не мог не сказаць колькі слоў пра сваю сям'ю, не мог яшчэ раз не прызнацца ў каханні да той, якая праз усё жыццё была побач. Вядома, я адразу сабраўся ў бальніцу да Бураўкіна...

— Пачыналася гэта ўсё 9 траўня 1959 года, калі, кажучы афіцыйнай мовай, мы з Юляй распісаліся. Паколькі ў нашых бацькоў не было сродкаў наладжваць з гэтай нагоды ўрачыстасці, вяселле зрабіў філфак: мой пяты курс аддзялення журналістыкі і Юлін трэці курс беларускага аддзялення. Вяселле было шумнае, вясёлае, студэнцкае. Святкавалі ў сталоўцы ўніверсітэта — у падвале пад біякорпусам. Асабіста мне запомнілася ванна, поўная вінегрэту — яго згатавалі Юліны дзяўчаты — які быў з'едзены яшчэ да перапынку... Тады ж па свежых слядах Сеня Блатун напісаў цэлую паэму пад «Тарнаса на Парнасе». Яе пасля перадавалі з вуснаў у вусны. Нават не ведаю, ці захавалася яна дзе ў пісьмовым выглядзе. Памятаю адтуль радкі:

*Народ усё быў нетакоўскі:*
*Сам Ніл Гілевіч, Матукоўскі...*

***— Значыцца, Гілевіч і Матукоўскі таксама былі вашымі гасцямі?***

— Так, быў Ніл, з якім мы сябравалі, быў і Мікалай — мой самы даўні і самы блізкі сябра. Таксама як і былі Рыгор Барадулін і Вася Зуёнак.

***— Але з чаго ўсё пачалося? Калі вы ўпершыню звярнулі ўвагу на будучую сваю жонку?***

— У студэнцкім буфеце. Я тады быў на трэцім курсе, а Юля прыйшла на першы. Падчас перапынкаў паміж заняткамі мы бегалі ў буфет перакусіць — звычайна бутэлькай кефіру і батонам. Памятаю, як убачыў у чарзе не знаёмую мне дзяўчыну, якая мне адразу спадабалася. А пазнаёміліся мы пазней — калі яна прыйшла ў тэатральны калектыў універсітэта, дзе я ўжо ўдзельнічаў.

***— Былі вядучым акцёрам?***

— Вядучымі акцёрамі там былі Ігар Дабралюбаў, які вучыўся на пятым курсе, і Лёва Тамільчык, цяперашні акадэмік. Ну, а я быў таксама на прыкметных ролях. Наш універсітэцкі калектыў лічыўся адным з лепшых самадзейных тэатральных калектываў... Вось тады і завязаліся нашы з Юляй узаемаадносіны, што прывялі да маладога, прыгожага і рамантычнага студэнцкага кахання, якое вылілася ў вяселле.

Дарэчы, я і тады захварэў, але на туберкулёз. У палаце было чалавек трыццаць ці сорак, дык мае суседзі былі перакананыя, што Юля, якая часта прыходзіла да мяне, мая сястра. Яны не маглі ўявіць, што сімпатычная маладая дзяўчына ходзіць да туберкулёзніка, вось і вырашылі, што яна — сястра... Я вельмі ўдзячны, што ў самыя цяжкія моманты, якія ў мяне былі, яна заўсёды была побач.

***— А дзе вы сталі жыць, як сыгралі вяселле?***

— На прыватнай кватэры. Хоць на мяне і была заяўка з рэдакцыі віцебскай абласной газеты — ажно на загадчыка аддзела культуры. Для выпускніка гэта ого якая вышыня! Тым больш што і зарплата адпаведная, і з кватэрай рэдактар абяцаў вырашыць пытанне. Але мы з Юляй параіліся — і вырашылі застацца ў Мінску. Па-першае, мне трэба было працягваць лячэнне, але галоўным было тое, што Юлі давялося б пераводзіцца на завочнае аддзяленне, дабаўляўся б яшчэ год вучобы.

***— Вы вось узгадалі Рыгора Барадуліна — дзіўна так атрымліваецца, што і ён, і вы былі жанатыя толькі аднойчы, што вернасць юначаму каханню абодва пранеслі праз усё жыццё.***

— Канешне, я ў гэтым сэнсе старамодны — так цяпер рэдка бывае, але ў мяне няма ніякага шкадавання. Наадварот... Што ж тычыцца Рыгора, дык да жаніцьбы ён пасля часта да нас прыходзіў. Зарабляючы нейкую капейчыну, мы пісалі ўсялякія перадачы на радыё. У тым ліку напісалі тады песню, якую цяпер спявае Зміцер Вайцюшкевіч:

*Я па броду крочу*
*Днём і ноччу*
*З чувіхаю*
*І цыгаркай яркай*
*Проста ў вочы*
*Ёй пыхкаю...*

Пасля наша кватэра, ужо «уласная» і больш прасторная, стала «сваёй» не толькі для Рыгора. Яна ўвесь час была гасціннай для многіх нашых сяброў: і для Васіля Быкава, і для Ніла Гілевіча, і для Пятра Клімука, Валодзі Кавалёнка. Заўсёды дарагімі і жаданымі гасцямі былі Ігар Шклярэўскі з Масквы і Павел Боцу і Лівіу Даміян з Малдавіі — царства ім нябеснае, а таксама Іван Драч, Дзмітро Паўлычка, Барыс Алейнік, Раман Лубкіўскі і выдатнейшы і любімейшы на Украіне кампазітар Сашко Білаш. Не кажу ўжо пра нашых знакамітых мастакоў Леаніда Шчамялёва, Гаўрылу Вашчанку, Аляксея Марачкіна, братоў-пісьменнікаў Валянціна Болтача, Віктара Казько, Сяргея Законнікава... І, канешне, у гэтым заслуга перш за ўсё Юлі, бо яна была не толькі шчодрай гаспадыняй, але і нашым аднадумцам, чалавекам, блізкім да таго, чым мы жылі, за што хваляваліся, за што змагаліся. І, можа, таму ў нас такі доўгі ўзаемны саюз — у нас адносіны асоб, блізкіх па перакананнях і маральных прынцыпах. Для мяне заўсёды было вялікай радасцю, што вельмі дарагія і важныя для мяне госці «прымалі» не толькі мяне, але і Юлю, і нашых дзяцей — сына Лёшу і дачку Свету.

***— Генадзь Мікалаевіч, а ці часта вы прысвячалі сваёй жонцы вершы?***

— Адзін з першых я ўключаю ва ўсе кніжкі, бо ён мне здаецца адным з маіх, як кажуць, фірменных — гэта «Юнацтва сінія арэлі»:

*Яны прыглушана рыпелі*
*Сярод старых кашлатых ліп.*
*Мы тыя сінія арэлі*
*Зламаць нікому не далі б...*

Ну, а што тычыцца астатніх... Калі выйшла кніга «Чытаю тайнапіс вачэй... Вершы пра каханне», многія пыталіся: няўжо ўсе вершы прысвечаныя Юлі? Я звычайна адказваў: не трэба ўжо так сцвярджаць, што ўсе да аднаго, але практычна ў кожным з іх Юля прысутнічае.

***— Здаецца, быў у вас яшчэ адзін верш, які вы напісалі раней за «Юнацтва сінія арэлі», калі нежанаты былі...***

— Калі мы з Рыгорам Барадуліным яшчэ вучыліся, дык самы яго славуты верш быў «Кухня Насці», які ён прывёз з цаліны, а мой — «Зноў пабачыў цябе...»:

*Цэлы тыдзень хадзіў я прыгнечаным,*
*Не гулялася, не спявалася.*
*Кожнай раніцай,*
*Кожным вечарам*
*Сэрцу нечага не ставала ўсё.*

*А сягоння*
*Зусім няпрошана,*
*Нечакана, неспадзявана я*
*Зноў убачыў цябе,*
*Харошая,*
*Дарагая,*
*Нецалаваная.*

*І гатоў салаўём заліцца я*
*На лады, на калены розныя,*
*Каб дзівілася нават міліцыя,*
*Што такімі бываюць цвярозыя.*

*І нясу, каханнем асвечаны,*
*Па вясновай зямлі сэрца гром-біццё.*
*Пагладзяць на мяне сустрэчныя —*
*І таксама шчаслівымі робяцца.*

*І магу я звярнуць нават гор хрыбты —*
*Сіла рвецца з грудзей нечуваная...*
*Ты ж пайшла.*
*І нічога не ведаеш ты,*
*Дарагая,*
*Нецалаваная...*

Пасля мне расказвалі, што калі я ішоў па ўніверсітэце, дык дзяўчаты казалі адна адной: «Вунь пайшоў «дарагая, нецалаваная»!»... Быў малады, закаханы. І калі не было прысвячэння Юлі, дык усё роўна гэта былі вершы, прысвечаныя ёй.

***— А чаму не ставілі прысвячэнняў?***

— У той час гэта было не надта прынята. Нават калі пазней я захацеў прысвяціць Юлі кнігу «Пяшчота», дык высокае начальства з Камітэта па друку зняло прысвячэнне.

***— Дарэчы, Юлія Якаўлеўна расказала, што гэта яна падштурхнула вас да напісання «Пяшчоты», гаварыла, у прыватнасці: «Генадзь заўсёды пісаў вершы пра каханне, але яны былі раскіданыя па розных кнігах, пакуль я аднойчы не прымусіла яго напісаць цэлую кніжку такіх вершаў. «Зрабі зборнік, — прасіла я, — пакуль яшчэ свежае ў цябе гэтае пачуццё...» І калі раней яго называлі выключна грамадзянскім паэтам, дык цяпер аказалася, што ён яшчэ і тонкі лірык».***

— Мабыць, так. Хоць я і сам пра такую кнігу думаў. Гэта ж была пара «брэжнеўскай публіцыстыкі» ў паэзіі. І вось якраз у той час мой сябра Дзмітро Паўлычка выдаў цэлую кніжку пра каханне — «Таямніцы твайго абліччa». Яна мне вельмі спадабалася, і я вырашыў, так бы мовіць, падхапіць ініцыятыву і такім чынам, падахвочаны Дзмітром і Юляй, склаў «Пяшчоту». Дарэчы, спадзяваўся, што кніжка мая нейкім чынам падахвоціць і сяброў — таго ж Рыгора Барадуліна, Янку Сіпакова — напісаць нешта падобнае. Я ж бачыў, што ў той паэтычна-публіцыстычнай тарабаршчыне, якая тады ўсё запаланіла і ў якой і мы часамі прымалі ўдзел, страчваецца ўвага і павага да паэзіі, а інтымнай лірыкай гэтую ўвагу і павагу можна заваяваць. Маладосць ёсць маладосць, юнакам патрэбныя, акрамя ўсяго іншага, вершы пра каханне... Мой сябра расказваў, як ён ачмураў сваю дзяўчыну маімі вершамі, не прызнаючыся, што гэта не ягоныя вершы... Улады прыходзяць і адыходзяць, а каханне было і будзе. І вершы пра каханне таксама застануцца, калі яны, канешне, таленавітыя. Ну, а хто натхняе на такія вершы? — дзяўчаты і жанчыны. Мой першы натхняльнік — Юля.





**Юлія Якаўлеўна і Генадзь Мікалаевіч Бураўкін**

**Фота з асабістага архіва Бураўкіных**

Літаратурная Беларусь

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Міхась Стральцоў

# Вершы на асфальце

Паважаны Чытач!

Гэты выпуск «Літаратурнай Беларусі» прысвечаны знакавай падзеі літаратурнага жыцця Беларусі — штогадоваму Міжнароднаму паэтычнаму фестывалю імя Міхася Стральцова «Вершы на асфальце».




Фестываль быў запачаткаваны ў 2012 годзе Саюзам беларускіх пісьменнікаў сумесна з Беларускім ПЭН-цэнтрам. Партнёрамі фестывалю ў розныя гады былі і застаюцца Шведскі саюз пісьменнікаў, партал TUT.BY, амбасады Літоўскай Рэспублікі, Латвійскай Рэспублікі і Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь, грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!», Польскі інстытут у Мінску, Інстытут імя Гётэ ў Мінску, Славацкі літаратурны фонд, Літаратурны музей імя Петруся Броўкі і кампанія «Prestigio».

У фестывалях бралі ўдзел сотні паэтаў з Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі, Германіі, Ісландыі, Казахстана, Нарвегіі, Славакіі, Швецыі, Фінляндыі, Эстоніі.

У праграме фестывалю апроч паэтычных чытанняў традыцыйна адбываюцца паэтычны слэм, прэзентацыі новых выданняў, дыскусіі, музычныя выступы і ўзнагароджванне пераможцаў літаратурных конкурсаў.

У насычанай праграме сёлетняга V Міжнароднага паэтычнага фестывалю імя Міхася Стральцова «Вершы на асфальце» —

**12 лютага:**

- шматмоўна-вершаванае адкрыццё з удзелам Ёнатана Барга (Ізраіль), Карліса Вердзіньша і Сямёна Ханіна (Латвія), Дайвы Чапаўскайтэ (Літва), Хінемааны Бэйкер (Новая Зеландыя), Алы Мікалаенка і Алены Сцепаненка (Украіна), Раісы Баравіковай, Вольгі Гапеевай, Адама Глобуса, Галіны Дубянецкай і Барыса Пятровіча (Беларусь) *(мадэратар Андрэй Хадановіч)*;
- прэзентацыя кнігі «Выбраных твораў» Міхася Стральцова («Беларускі кнігазбор», укладальнік Міхась Скобла);
- «Забойны аддзел»: выступленні Богдана Задуры (Польшча), Аляксандра Ірванца (Украіна), Уладзімера Арлова і Андрэя Хадановіча (Беларусь);

**13 лютага:**

- круглы стол «Сучасная літаратура: актуальнасць класікі» з удзелам Богдана Задуры (Польшча), Любы Якімчук (Украіна), Валянціна Акудовіча, Ігара Бабкова, Сяргея Дубаўца, Андрэя Хадановіча (Беларусь) *(мадэратарка Ірына Дубянецкая)*;
- «Пяць сталіцаў паэзіі»: выступленні Яўгена Бясчаснага і Уладзіміра Глазава (Брэст), Алеся Замкоўскага (Віцебск), Крысціны Бандурынай, Ларысы Раманавай і Насты Шакуновай (Гомель), Анатоля Брусевіча і Святланы Куль (Гародня), Дзмітрыя Дзмітрыева (Магілёў) *(мадэратар Андрэй Хадановіч)*;
- «Палеміка з аптымізмам. Сучасная славацкая паэзія»: прэзентацыя зборніка вершаў з удзелам Петэра Мілчака і Іван Штрпка (Славакія), а таксама перакладчыкаў Паўла Рааго і Святланы Рогач *(мадэратарка Святлана Богуш)*;
- прэзентацыя выдавецкіх серый Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» і Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»: кнігі Валянціны Аксак, Леаніда Галубовіча, Леаніда Дранько-Майсюка, Людмілы Рублеўскай, Наталлі Русецкай і Сяргея Украінкі *(мадэратар Алесь Пашкевіч)*;
- «Мірнае мора»: музыка Юры Несцярэнкі (гітара, вакал), Ірыны Снапковай (вакал), Віктара Зайцава (басіст), Яўгена Зверава (барабаны);
- паэзія народаў «ПрайдзіСвету»: бенефіс перакладчыкаў — Лявон Баршчэўскі, Зміцер Колас, Ганна Комар, Уладзь Лянкевіч, Кацярына Маціеўская, Алег Мінкін, Андрэй Хадановіч, Ганна Янкута;
- «Вялікае Княства Паэзіі»: міжнародны паэтычна-музычны джэм — Алег Мінкін (Вільня), Сямён Ханін (Латвія), Мар'юс Бурокас і Дайва Чапаўскайтэ (Літва), Хінемаана Бэйкер (Новая Зеландыя), Богдан Задура (Польшча), Аляксандр Ірванец і Ала Мікалаенка (Украіна), Сесілія Хансан (Швецыя), Алеся Башарымава, Сабіна Брыло, Ігар Кулікоў, Усевалад Сцебурака, Віка Трэнас (Беларусь);

**14 лютага:**

- «Ранішнік у Броўкі» — вершы для дзяцей: свае творы чытаюць Раіса Баравікова, Вера Бурлак і Кастусь, Леанід Дранько-Майсюк, Алег Мінкін, Серж Мінскевіч, Аксана Спрынчан, Усевалад Сцебурака, Андрэй Хадановіч *(мадэратар Анатоль Івашчанка)*;
- адкрытая лекцыя Ціхана Чарнякевіча «Чарнавікі Стральцова»;
- «Розныя рэчы»: прэзентацыя дэбютных кніг серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Пункт адліку»: Мікіта Найдзёнаў, Таня Светашова, а таксама кніг Георгія Барташа, Алеся Плоткі, Анхелы Эспіносы *(мадэратарка Віка Трэнас)*;
- літаратурны клуб GRAPHO/партал textura.by: Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Вольга Злотнікава, Ліна Казакова, Стась Карпаў, Наста Кудасава, Андрэй Фаміцкі *(мадэратарка Наста Кудасава)*;
- «Турбацыя мас»: Мар'юс Бурокас (Літва), Сяргей Бірукоў (Расія/Германія), Аляксандр Ірванец і Сяргей Прылуцкі (Украіна), Сэсілія Хансан (Швецыя), Дар'я Бялькевіч, Віктар Жыбуль, Віктар Лупасін, Тацяна Нядбай, Таня Скарынкіна (Беларусь) *(мадэратар Андрэй Хадановіч)*;
- «Музыка ў паветры»: Раман Абрамчук (спевы, гітара), Аляксандр Карабань (кантрабас), Антон Рудак (вершы).
- СЛЭМ. Зборная Беларусі — зборная Свету.

Пераможцы і ўдзельнікі паэтычнага батлу «Рухавік».

Творы некаторых замежных удзельнікаў фестывалю змешчаны ў гэтым выпуску «Літаратурнай Беларусі».

**Афіцыйны сайт фестывалю: stralcou-fest.by.**

## Пяць фактаў пра Міхася Стральцова

**1) Вельмі падабаўся жанчынам**

Адным толькі позіркам, поўным пяшчоты і невымоўнага захаплення, мог заказаць у сябе жанчыну. Ала Сямёнава адзначала: «Міхась Стральцоў не быў пазбаўлены ўвагі жанчын. І ў апошнія гады (…) ён зазнаў вялікі жаночы інтарэс да сваёй асобы»; паводле Анатоля Сідарэвіча: «у (…) рэдакцыі (…) «Мастацкая літаратура» (…) у жанчын быў культ Стральцова».

**2) Быў адным з самых начытаных і дасведчаных студэнтаў свайго часу**

Журналіст Уладзімер Скапа згадваў: «…Міхась Стральцоў, бадай, самы дасведчаны сярод нас у літаратуры (…) Міхась быў добра знаёмы з рускай класічнай, савецкай, замежнай літаратурай. Ведаў творы (…) рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў, імёны якіх ніхто з нас не чуў».

**3) Лічыў, што беларускія класікі роўныя па таленце «зоркам» сусветнай літаратуры**

Кузьму Чорнага, напрыклад, супастаўляў з Дастаеўскім і Фолкнерам: «…не трэба баяцца падобных супастаўленняў (…) памыляюцца тыя, што гавораць пра нейкую «перыферыйнасць» творчасці Чорнага. Амаль у касмічных духоўных межах бачыць сваю Ёкнапатафу Фолкнер. І ў Цімкавічах духоўная свету Чорнага зусім іншая «геаграфія», чым у рэальна існуючай вёсцы на Случчыне…»

**4) Быў негаваркі. Пагаджаўся з Купалам, што сапраўдны сябар той, з кім ёсць пра што памаўчаць**

Леанід Дранько-Майсюк успамінаў: «Мне падабалася, што ў гутарцы з Ім (…) само маўчанне было ўтульным (…) Ён мала гаварыў, быццам не давяраў таму, што вымаўляецца ўголас…»

**5) У апошнія гады жыцця марыў пра ўласную хату на прыродзе**

Ала Сямёнава: «…марыў ён пра хату (…) на ўскрайку вёскі (…) у апошнія месяцы жыцця (…) і пасля аперацыі ў Бараўлянах пачынала цепліцца надзея, ён выпраўляў сваю сяродную дачку Вераніку паглядзець які пляц з будынінай».

**Паводле Васіля Дэ Эм, www.svaboda.org**

# Хінемаана Бэйкер

**(Новая Зеландыя)**



### хінемаана[1]

*(kohupätiki marae[2])*

*Прачынаюся тварам*
*да крокваў.*
*Караскаюся на вокны*
*праходзіць тры, чатыры гадзіны*
*жоўтыя прышчэпкі на вяроўцы.*

*Кажу таму хлопцу*
*я нічога не раблю ў спешцы.*
*Ён падпальвае другую ўжо цыгарэту*
*чыхае, чыхае ізноў*
*трэці раз, западае ціша.*

*Я фоткаю пахаванне каня.*
*Чырвоная скульптура пад бетоннай столлю.*
*З кута даносіцца спеў*
*Згадай як зіхцела вада*
*Бяскрайні абшар над намі*
*Нас імчала каноэ*

*Я на пяць частак жанчына, а рэшта*
*у літрах. Маё імя імя той*
*хто цягне іх пад вадою*
*як манашкі, плаваючы*
*свае апранахі, цёмныя цені*
*на кручку. Прыходзяць бабулькі*

*паказваюць нам рамёствы, фенечкі*
*растуць з іх пальцаў. Нехта з нас*
*пляце мокры лён[3], хлопец кажа*
*высушы, а то пагніе. Наступае ноч*
*ззяе флюарэсцэнт*
*мы з'ядаем па трацінцы камбалы.*
*Ці тваё імя, як твае жыццё*
*прылівы, адлівы?*
*Я варушу пальцамі*
*у рытуальным танцы*
*як акіян хвалямі.*

---

1. Хінемаана Бэйкер была названая ў гонар багіні з міфалогіі маоры, імя можна перакласці як Жанчына Акіяну.
2. Kohupätiki marae — рытуальны комплекс маоры (абшчынны дом і свяшчэнны падворак).
3. Новазеландскі лён, або форміум (Phormium tenax) — травяністая расліна з такім эластычным лісцем, што маоры спрадвек ткалі з яго трывалую вопратку, вязалі канаты, плялі сеткі і г.д.

### меншанькае

*Я меншанькае*
*Рассякаю натоўп на бліскучай чырвонай*
*тачцы*
*Вяду за сабою вялікіх звяроў кручу агні на*
*вяровачках*
*Я меншанькае і я ведаю каго хачу*
*ў прэзідэнты*
*Я ведаю хто гэтая постаць у чорным*
*Уцэнка прапісаная наўскос па маім твары*
*Я меншанькае і ў мяне семдзесят сем нянек*
*Усё і ўся старэйшыя за мяне*
*Вось я між сваякоў у маднявым зялёным лісці*
*Я ем каноэ і п'ю залівы*
*У мяне барада і маленькі тлусты крабік*
*у чарупіне*
*Я меншанькае я малодшанькае я pötiki я teina[4]*
*Усе ламаюць галовы над праблемай мяне але*
*Ніколі не позна пачаць з нуля няхай*
*Абыйдзеныя ўздоўж і ўпоперак уладанні мае*
*У мяне ўсё напагатове, бо я меншанькае*
*Я аздоба любой імпрэзы я рассцілаю*
*Каровіну скуру прыводжу людзей*
*у логавішчы*
*Дэманаў, паказваю ім д'ябла ў асфальце*
*Усе неяк круцяцца каб выжыць*
*Я знаю што нельга крычаць і рыкаць калі*
*я сярод іх*
*Я прыводжу з сабой дзяцей, прыношу столькі*
*Гарбузоў, колькі трэба, спяваю,*
*не трапляючы ў ноты*
*Раздаю ўзнагароды — марскія зоркі героя.*

---

4. Pötiki, teina (маоры) — словы, якімі называюць самых малодшых у сям'і.

### выкапні[5]

*Быццам бы я*
*праглынула карэнне*
*сказала жанчына ў аўтобусе.*
*Гэта такі новы грып?*
*Быццам бы я*
*сказаў кіроўца аўтобуса*
*праглынуў спідометр.*
*Ну а я*
*сказаў начальнік дэпо*
*быццам бы праглынуў*
*вялікі белы цагляны*
*адміністратыўны будынак*
*Цэгла несапраўдная*
*нешта накшталт кабанчыка.*
*У адным з кутоў павук*
*пляце павуцінне.*
*Мы, акцыянеры*
*сказалі акцыянеры*
*быццам бы праглынулі аўтобус — не*
*многа аўтобусаў, тралейбусаў*
*ці трамваяў, што ездзяць на электрычнасці*
*чэсным слове і хісткіх іскрыстых*
*антэнах, на тоўстых дратах*
*што аплятаюць наш горад*
*звязваючы прадмесці*
*і людны цэнтр*
*без усялякай літасці*
*аўтатранспарту з яго архаічным*
*палівам з цвердых выкапняў*
*Мы — карэнне*
*кажуць выкапні,*
*ад якіх ты паходзіш.*

---

5. Размова пра паходжанне, карані — частка менталітэту сучасных маоры. Большасць людзей ведае, з якога племені ці плямёнаў паходзіць, і можа прасачыць свой радавод да архаічных часоў рассялення маоры ў Палінезіі. Гаворка вядзецца на вельмі канкрэтным узроўні — пра ДНК і нават генетычны аналіз выкапневых костак.

### прапановы на гэтым напрамку

*Маленькія косткі ў галаве вугра*
*маюць у сабе кольцы, як дрэвы*
*Каб уведаць ягоны век мы лічым кольцы.*

*Косткі надта маленькія для пінцэта*
*мой стрыечны брат падчэплівае адну*
*сіліконавым шарыкам*

*на кончыку дрота.*
*Ён змяшчае костку пад мікраскоп.*
*Ён можа нават сказаць, што яны елі.*

*Яны выпраўляюцца ў Самоа на нераст*
*кажа ён мне, верагодна Самоа*
*ці кудысьці яшчэ, дзе вада*

*такая глыбокая, што вырывае сперму*
*ды ікрынкі з іх целаў.*
*Потым яны паміраюць*

*а шкляныя малькі*
*адольваюць шлях ад Самоа*
*назад да той жа ракі*

*ў Харафэнуа[6].*
*Салёна, прэсна, салёна, кажа ён.*
*Андыпод ласося.*

---

6. Харафэнуа — мясцовасць на заходнім беразе Паўночнай выспы Новай Зеландыі.

*

*Я выкідаю гадзіннік*
*сметніца цікае.*
*Па тэлевізары*

*людзі з шокам адкрываюць*
*сакрэтнае онлайн-жыццё*
*сваіх блізкіх, дачка*

*і цыянід, не было прычыны.*
*Наш посуд тхне рэпэлентам*
*я мыю яго, мухі кружляюць*

*каторы ўжо тыдзень*
*тыя самыя мухі*
*тандэмамі*

*дзве назольныя пары.*
*Ці можа быць гэта*
*новыя мухі штодня і пары*

*змяняюць адна адну*
*як заезды на спа-курорце*
*сярэдні клас сярэдняга веку*

*знуджаны*
*прапановамі на гэтым напрамку*
*горка ў аквапарку*

*шпацыр на золку*
*па мангравым лесе*
*сварка міжсобку*

*ніяк не спыняцца*
*лепш бы яны выправіліся*
*на Самоа.*

**Пераклала з англійскай**
**Марыя Мартысевіч**

# Ёнатан Барг

**(Ізраіль)**



### Бацька

*Майму тату ўжо*
*цяжка хадзіць,*
*цела не цягне сваёй*
*паклажы,*
*ды ліхаманка словаў не*
*адпускае:*
*«Як табе Генры Мілер?»*
*«У Бродскага знойдзеш сур'ёзнасць*
*і роспач,*
*дзве найважнейшыя рысы паэта».*
*Бацька прайшоў праз вялікі холад XX веку,*
*але праз піўную пену дзённых гадзінаў*
*бачу — завод ягонай душы й надалей*
*дыміцца.*
*І я пішу, як ён сам з сабой размаўляе а*
*5-й ночы,*
*вырашаючы вечныя полавыя пытанні,*
*вось дылема пісьменніка: як падыходзіць*
*да ўласнага цела — такога, якім яно ёсць,*
*бруднага, ды шчаслівага. Я імкнуся*
*паразмаўляць з ім пра ўсё, пра музыку з*
*літаратурай,*
*гісторыю з геаграфіяй, пра хібы*
*сусветных рэлігіяў,*
*толькі не пра сям'ю. Бо тут ён скідае*
*паклажу,*
*выцягвае з багажу ханукальныя свечкі,*
*рыпіць дзвярыма віны.*
*Мой бацька хутка стамляецца,*
*пішучы падсумаванні. А я дадаю сваё:*
*«Ты ацалеў — і гэта ўжо геройчна:*
*не важна, што адбываецца, трэба*
*надзець кашулю*
*чыстую, накарміць дзяцей. Ніколі не*
*помсціць.*
*Не жабраваць ніколі. І не здавацца.*
*Нават калі дажыў да ста дваццаці».*
*Доўгае падсумаванне дурасці й страху.*

### Хутчэй і хутчэй

*Вецер лупіў наводліў, мора крывіла міны*
*хваляў ва ўсе бакі. Вада мармытала*
*сабе пад нос, як вар'яты. Нейкія з іх плылі —*
*колеры сёрферных дошак танулі ў шэрым.*
*Амаль не было святла, і ўсё-ткі я ўбачыў*
*птушыную зграю, што крэсліць абрысы*
*доўгай дарогі дадому.*
*Пэўна ж, стаміліся без пазалоты сонца*
*на моцных спінах. Я ўбачыў пыху,*
*прагу імчацца далей, паўз маё*
*цела, чый дом заўжды будзе іншым —*
*празрыстым,*
*пустым, збудаваным з памяці. Рыбакі*
*хуталіся ў тканіну, вецер дадаў*
*іхным тварам пакуты й напругі. Я крочыў*
*хутчэй і хутчэй, так спяшаўся ў Яфу —*
*не тую,*
*з каменю, вежаў і водару архідэяў. У іншы*
*горад. У старажытную гавань мяне*
*самога.*

### Адэса

*Маўклівыя вулкі,*
*масіўныя камяніцы,*
*электрадраты, прычасаныя ветрам,*
*мора, што сціхла ў чаканні,*
*ды зараз накінецца,*
*бітма набіты аўтобус,*
*вялікі запоўнены рынак,*
*альтанка ў сярэдзіне парка*
*з эстрадаю для аркестру,*
*пешаходная вуліца,*
*утаймаваная вечнымі крокамі,*
*опера, што ўдыхае бульвары і выдыхае*
*гонар, напапалам з настальгіяй;*
*па дворыку ўніверсітэцкім*
*крочыць юнацтва*
*з бунтоўным смехам эстэцкім,*
*палкаму сэрцу — здаровага сэнсу клетку,*
*доўгая набярэжная — п'яніцу*
*і падлетку;*
*камяні пацёмкінскіх сходаў, сілай*
*кінематографу ператвораны ў сімвал,*
*порт працягвае рукі проста ў паветра,*
*стомлена абдымае кантэйнеры,*
*помнікі — Пушкін, Бабель,*
*металічныя ржавыя колы трамвая,*
*гудзенне электрыкі;*
*гатэль: канапа і ложак, а за акном*
*сады, заціснутыя дамамі,*
*машыны,*
*кавярні і рэстараны,*
*бары і крамы з адзеннем —*
*усё*
*насяляюць здані габрэяў.*

### Паўзы

*У Таркоўскага. Рух шапаткое травы*
*чуецца і тады, калі чалавек паваліўся.*
*Усё дзяцінства помніш бацькоўскі кулак.*
*Між домам са зданямі й плошчай*
*правадыра*
*хтось цягне вандроўнага папяровага змея.*

*У Роберта Блэя. Сполахі возера абуджаюць*
*вечар. Далёкі горад, агні дамоў і машынаў*
*на далягля́дзе. Рукі трымаюць мёртвую*
*птушку.*
*Заўсёды ёсць рэчы, якія не перажывуць зімы,*
*адступіўшы туды, дзе болей лагоды.*

*У Джэксана Полака. Кружыць і кружыць*
*наўкола.*
*Не чуючы галасоў, што гучалі раней.*
*Заплямленая падлога, штаны, кашуля.*
*Слухае. Нахіляецца. Потым шпурляе*
*фарбу. Вось так, усё. Зараз можна заснуць.*

*У Ніка Дрэйка. Рака прыбывае. Проста*
*у гарадскія вокны. Гатэль, незасцелены*
*ложак.*
*Дождж ужо дзень як спыніўся.*
*Ізноў сустракаеш таго ж чалавека.*
*У ягоных кішэнях імёны, вы смеяцеся. А*
*потым*
*вуліцы, горад, бясконцы мур пустаты.*
*Струна, якая штохвілі можа парвацца.*

*У Збігнева Герберта. Маці сыходзіць услед*
*за сваёй шафай. Парады, працэсія дыму*
*і здзеку,*
*быццам свабоду дыхаць таксама скралі.*
*Бездань, імя якой — чалавецтва, людства.*
*Хтось кажа:*
*зараз можам спаць яшчэ болей,*
*бо надыходзіць яшчэ даўжэйшая ноч.*

### Адзінства

*Мы едзем па шаўковым шляху вечара,*
*багаж з тытунём і жаданнямі тлее*
*між нашых пальцаў. Палкія падарожнікі,*
*нашыя вочы адплюшчаныя, каб бачыць.*
*Едзем у псальмах, у вершах Румі, у казаннях*
*Назараніна, ломячы хлеб*
*пад фісташкавым дрэвам,*
*пад дрэвам баньян і ў засені самарыцянскай*
*шаўковіцы. Дар паэзіі падымаецца ў*
*нашых*
*горлах, вандруе пад сценамі ночы. Едзем*
*у гарачай бясконцасці, шэпты звястуюць*
*любошчы,*
*і ціхамірны конь уздымаецца ў неба.*
*Едзем з усім сусветам, з лютым іржавым*
*мечам,*
*шнарамі ад калючага дроту, з дрыготкай*
*у сцёгнах,*
*з пасляродавым плачам —*
*там, дзе сплятаюцца ногі*
*і скаланаюцца целы, маўклівым шляхам*
*брахманаў,*
*шляхам царкоўных званоў і сінагагальных*
*спеваў.*

*Арлінай дарогай смерці, зямлі, змяшанай*
*з ракой,*
*дарогай хаўтурных прамоваў, дарогай*
*мармуру, па*
*шаўковым шляху вечара —*
*і сэрцы палаюць у змроку.*

**Пераклалі з іўрыту**
**Павал Касцюкевіч**
**і Андрэй Хадановіч**

# Богдан Задура

**(Польшча)**



* * *

*сапраўдных трагедыяў ужо няма*

*проста адкрываюць*
*газ*
*ці адчыняюць акно на*
*дзясятым паверсе*
*і робяць крок*
*глытаюць штосьці паспяваюць пад цягнік*
*завязваюць вузел*

*або не адкрываюць газу*
*адчыняюць акно на дзясятым паверсе*
*але не робяць кроку*
*глытаюць штосьці іншае спазняюцца*
*пад цягнік*
*нічога не завязваюць*

*адна суцэльная трагедыя*

* * *

*на гэтым здымку*
*год таму не было нікога*

*на тым быў адзін*
*цяпер двое*

*як моль*
*у неправетранай шафе*

*як мышы*
*ў каморы*

*у скрыначцы з фотакарткамі*
*сваволяць нябожчыкі*

### Працягваеш да мяне рукі

*каб далікатна*
*адсунуць мяне ад сябе*

### Калі ласка больш…

*Горла*
*не найлепшае месца*
*для сэрца*

*Калі ласка больш не звані*

### Свабода выбару

*сціскае зубы*
*і йдзе на ўчастак*

*і так з васямнаццаці год*
*усё жыццё*
*прыкладна*
*раз на чатыры гады*

*аднойчы не пайшоў*
*аднойчы не сціскаў зубоў*

### Падрахункі

*па вяртанні дамоў*
*складаю спіс арганізатараў*
*майго інфаркту*

*здаецца*
*кантрольны пакет*
*належыць мне самому*

*але колькасць*
*дробных суўдзельнікаў*
*мяне ўражвае*

*каб я агучыў увесь спіс*
*шмат хто з іх*
*таксама*
*схапіўся б за сэрца*

### Аб'ектыўна

*Чым больш ты зрабіў*
*тым меней патрэбны*

**Пераклаў з польскай Андрэй Хадановіч**

# Дайва Чапаўскайтэ

**(Літва)**



### Дачцэ

*Так шмат хацела*
*табе паказаць,*
*пазнаёміць з прыродай элементарных*
*часцінак,*
*растлумачыць сусветны лад,*
*раскрыць таемныя коды,*
*перадаць рэліквіі, традыцыі й*
*стэрэатыпы.*
*Увесь час паўтарала — глядзі,*
*глядзі, глядзі.*

*Глядзі, гэта луг,*
*ён глыбокі — да падбароддзя,*
*калі ты брыдзеш па ім, вецер*
*коціць голаў па вяршалінах мятліцаў,*
*а там, на беразе, сохнуць*
*талеркі каровінага лайна —*
*пячаткі на нашым леце.*

*Глядзі, гэта людзі,*
*яны цікавейшыя ад усіх,*
*не, не тыя, што зведалі ўсё,*
*а няўпэўненыя, нясмелыя,*
*глядзі, заікаюцца, сумняюцца,*
*яскравыя, быццам зялёны кроп,*
*а за хвілю штось зразумелі і разгубіліся.*

*Глядзі,*
*вось цеста бясформеннай ночы,*
*з яго можна што-небудзь зляпіць,*
*калі нічога няма,*
*калі самотна і пуста —*
*адшчыпні сабе чорны кавалачак цемры,*
*пакладзі пад язык і трымай,*
*покуль не набрыняе слінай,*
*а потым кажы,*
*што вымавіш, тое і будзе.*

*Глядзі, вось герань,*
*чырвонымі*
*касцяшкамі ўперлася ў падваконне,*
*яна пахне маёй бабуляй,*
*тваёй прабабуляй.*

*Глядзі,*
*гэта пясок,*
*колеру тваіх валасоў,*
*у дзень, калі ты нарадзілася,*
*пясок усяго сусвету*
*стаў колеру тваіх валасоў.*

*Я наўкола круцілася,*
*я паўтарала — глядзі, глядзі,*
*покуль не зразумела, што гэта не я,*
*а ты мне ўсё гэта паказваеш.*
*Я толькі слухаю і гляджу —*
*як па лузе бягуць*
*даўганогія чалавечыкі,*
*як хістаюцца палачкі-ножкі,*
*як трашчаць графітавыя суставы,*
*а вось у сярэдзіне — найпрыгажэйшы —*
*гэта я, —*
*валасы тырчаць, нібы палачкі,*
*тры пальцы сціскаюць*
*сцяблінку герані*
*як сцяг,*
*у роце мокра ад сліны*
*скамечаных сноў, —*
*зялёная і разгубленая,*
*але самая-самая*
*прыгожая.*
*І ніколі не стала б такой,*
*каб не ты.*

* * *

*Улазіла ў боты,*
*нават у боцікі,*
*нават у свае сляды,*
*улазіла ў дзвярную пройму,*
*за пазуху, у міжзуб'е,*
*памяшчалася ў шапцы,*
*разам з мышыным гняздом,*
*з пяццю голымі мышанятамі,*
*у галаве памяшчалася,*
*у фатаграфіі не заўсёды,*
*часам абразалі,*
*памяшчалася ў кішэні,*
*побач з леташнім каштанам,*
*у жмені памяшчалася,*
*нават заставалася месца,*
*каб не выпасці,*
*упіралася нагамі*
*і трымалася,*
*цвёрдая, быццам грэчка,*
*на кончыку мамінага пальца*
*памяшчалася, покуль сякерай*
*не адцялі, па шыі курыцы*
*не трапіўшы,*
*у струменьчыку ейнай крыві*
*памяшчалася,*
*балела і памяшчалася,*
*покуль не перастала,*
*памяшчалася, памяшчалася,*
*покуль не змоўкла.*

* * *

*Нібыта й вясна.*
*У падворках болей дзяцей,*
*і пясок награваецца*
*ў ракаўках брудных далонек.*
*Рака прыбягае,*
*збягае.*
*А з ёю рыба,*
*якую ты не спаймаў.*
*Ну, і халера з ёй,*
*пастаю яшчэ,*
*між зубамі*
*зернейка кмену,*
*а злева лаўка –*
*тры бабулькі,*
*нібы пясочнае печыва,*
*рассыпаюцца ад*
*паўднёва-заходняга ветру.*

* * *

*Восень заўжды пачынаецца ў горле.*
*Дзесьці між звязак*
*з'яўляюцца хмары, гусцеюць,*
*збіраюцца ў камякі,*
*засядаюць і ціснуць.*
*Вільгаць падымецца ўгору,*
*да самага кончыка носа,*
*павісне цяжкою кропляй,*
*цягнецца, цягнецца, покуль*
*не скіну пальцамі вобзем.*
*Мільгне вільготнаю знічкай*
*і пляснецца аб брукаванку*
*рыбіным плаўніком.*
*Глянцавы брук адлюструе*
*жураўоў на курлыкіным небе,*
*божыя палец ды пазуху,*
*марныя спадзяванні,*
*абяцанкі-цацанкі,*
*мэты, якія*
*не апраўдалі сродкаў,*
*радзіму з асеннім падзеннем*
*рэйтынгаў, з тварам*
*колеру гнілых яблык,*
*маркоту птушынага горла, —*
*адлюстраваныя*
*ў мокрым люстэрку*
*насмарку.*

* * *

*Сёлета заўважыла шмат мышэй*
*у сваіх вершах.*
*Можа, таму, што хутка зіма?*
*Можа, перасяляюцца ў мае строфы*
*у пошуках цяплейшага кута?*
*Шнырають між радкамі,*
*скрабуцца, вынюхваюць.*
*Нанясуць цяпер усялякага смецця,*
*нагрызуць, накрышаць, натупаюць,*
*прыйдзецца чысціць.*
*А з іншага боку, хоць некаму*
*прыдалася тая паэзія.*
*Можа, і не зусім*
*дарэмна я працавала,*
*будзе жывёлінам дзе зімаваць.*
*Бо калі не, то без сэнсу,*
*без патрэбы й карысці*
*ўсе гэтыя вершы,*
*калі сур'ёзна падумаць.*
*Панатыкаю яшчэ*
*розных аўсяных метафараў,*
*смачных словаў панасыпаю,*
*што-небудзь пра ёлку*
*і абавязкова пра сыр.*
*А потым у зябкі снежань*
*буду сабе глядзець,*
*як сытыя і шчаслівыя*
*мышкі*
*у маіх вершах*
*святкуюць Каляды.*

**Пераклаў з літоўскай Андрэй Хадановіч**

# Люба Якімчук

**(Украіна)**



### вусень

*яе пальцы змерзлі й*
*звузіліся*
*заручальны пярсцёнак злятае*
*цокае аб асфальт*
*яе пальцы трымцяць*
*на ветры*
*як асенняе лісце калі*
*ля ног прапаўзае вусень*
*вусень танка*
*ля ног яе дачкі*

*двое падыходзяць і загадваюць*
*разгарнуць рукі як для воплескаў*
*угледаюцца ў пашпарт першы, другі раз*
*мацаюць яе мазолістыя пальцы*
*і знаходзяць на іх апёкі, толькі апёкі*
*дзе мусіў быць мазоль на ўказальным*
*ад снайперскай вінтоўкі*
*яны называюць яе пазыўны*
*а можа і не яе —*
*курва-мама*

*яны яе раздзяваюць*
*яны яе разглядаюць*
*яны разлягаюцца*
*злягаюцца*
*лаюцца*
*дзевяцёра*
*(яе ўлюбёная лічба)*
*у сініх халатах*
*(яе ўлюбёны колер)*
*у дзіравых красоўках*
*(яе ўлюбёны абутак)*
*дзевяцёра на адну раскудлачаную*
*не курву, а маму*

*а дзяўчынка сціснулася калачыкам*
*яна глядзіць і не плача*
*яна падымае мамін пярсцёнак*
*хавае ў роце, як сабака костку,*
*і глядзіць, як вусень дажырае іх зялёны*
*горад*

### Варона, колы

*калі горада ўжо не было*
*пачаўся бой за могілкі*
*а якраз надыходзіў Вялікдзень*
*і драўляныя крыжы на свежых магілах*
*распусцілі свае папяровыя кветкі —*
*чырвоныя, блакітныя, жоўтыя*
*салатавыя, аранжавыя, малінавыя*

*вясёлыя сваякі налівалі сабе гарэлкі*
*а мёртвым — проста ў магілы*
*і тыя адтуль прасілі яшчэ і яшчэ, і яшчэ*
*і сваякі зноў налівалі*

*карнавал трываў, трываў карнавал*
*покуль заяц не натыкнуўся на расцяжку*
*ля магілы цешчы*
*а стары дзед заглядзеўся на неба*
*і застаўся без неба*
*мажны мужчына ўдарыў чаркай*
*і разбіў ёй агароджу сваёй жонкі*
*дробнае шкло ўпала яму пад ногі*
*як град з навальнічнай хмары*

*настаў Вялікдзень*
*і на магіле Воранавай Ганны Андрэеўны*
*стаіць варона — не помнік*
*а ў апошнім гняздзе Калеснікаў*
*дзе спачываюць Марыя Віктараўна, Піліп*
*Васільевіч*
*ды Мікалай Піліпавіч*
*стаяць БТРа колы*

*хто яны мне, тыя колы й варона?*
*хто яны? ужо не згадаю*

**Пераклаў з украінскай**
**Андрэй Хадановіч**

# Месяц люты

Міхась СТРАЛЬЦОЎ



### Мажорнае

*Зноў вясна! —*
*прэч, адзежы зімы,*
*з цела, з душы, з учарашняй надзеі!*
*Вольны цяпер:*
*захачу —*
*горадам прарасту,*
*камяніцамі ў цёмнае неба.*
*Страпянуся ад тупату ног,*
*ад крыку травы,*
*ад трызнення вады,*
*ад сп'янелага ветру,*
*што рвецца ў трамвайныя дзверы.*

*Стану смерчам рэклам,*
*стану ноччу і днём*
*і заложнікам першага грому.*
*Вольны цяпер! —*
*захачу —*
*над зімою паплачу.*

* * *

*Разбіраюць барак пад маім акном,*
*разбіраюць спаважна,*
*як быццам дом новы будуюць.*
*Чуцен скрыгат і трэск, —*
*пыл ляціць,*
*і ляцяць*
*над баракам шпакі,*
*непазбежна і пругка, як вецер.*
*І ўсё дзеецца так, як трэба.*
*Хлопчык малы*
*тым часам на дрэва залез,*
*гушкаецца на галлі, —*
*дарослыя на яго*
*не звяртаюць увагі.*
*Дрэва, як цацку, яму аддалі,*
*каб не плакаў.*

### Помста

*Скажыце мне,*
*колькі вам год:*
*я вам пажадаю шчэ столькі,*
*шчэ столькі,*
*шчэ столькі*
*ну і паўстолькі, —*
*колькі,*
*пакуль не памёр,*
*жадалі і мне.*

* * *

*Памыўся снегам ён,*
*Павыціраўся ветрам.*
*Імчаўся наўздагон*
*Бясконцым кіламетрам.*
*Ты верна, конь, служы*
*Яму часінай тою,*
*Калі няма мяжы*
*Між небам і зямлёю.*

### Месяц люты

*Вясёлы месяц люты,*
*Мяцеліцай раскуты, —*
*Шумі вятрамі, грай!*
*Вятры пабралі лютні,*
*Імчаць у свет бязлюдны.*
*Праводзіны?*
*Адходзіны?*
*Зіме?*
*Гэй, пачынай!*
*Давай!*
*Давай!*

*Ах, ах, ды ў гэтым месяцы*
*Яшчэ забіты весніцы,*
*Марозам прымарожана,*
*Прымружана*
*Шчэ лужына*
*Завейлівым сняжком.*

*Гудзе вятрамі вуліца,*
*Як бубен дом.*

*Мяцеліца пасцелецца*
*Ад рання да цямна.*
*Апоўначы насмеліца*
*Адліга —*
*Месяц крыгай*
*Да самага відна.*
*А зорка — во свавольніца! —*
*Пад раніцу расколецца*
*Аб шыбіну акна.*

*— Скажыце! Навіна!*

*Кажыце не кажыце,*
*Ідзе вясна!*

* * *

*Так! Пад ценем вясла*
*утрапёнай вады вуркатанне,*
*пеннай бурбалкі ўсхліп, —*
*так! Пад ценем вясла —*
*цень на дне, цень, стракаты ад сонца,*
*ад кропак і косак маўчання,*
*трывання,*
*працяжнікаў, клічнікаў перасцярогі,*
*ад строгіх фігур дапушчэння,*
*здзяйснення,*
*здзіўлення,*
*ад вектараў сілы,*
*што ў наступ ідзе без адхлання,*
*перамагае і нішчыцца*
*паўзаю раўнавагі...*
*Так! Пад ценем вясла —*
*праз дзень неадчэпны вяслую.*
*Бераг далёка.*
*Не менее ў сэрцы адвагі.*

* * *

*Ты пачакай. Навошта гэта?*
*За ўцёкі ў вершы не карай.*
*Не рай чакае там паэта,*
*А калі рай — пакутны рай.*
*Ідуць там за спякотай сцюжы,*
*За промнем следам змрок ідзе.*
*Павер мне, без калючак ружы*
*Не адшукаў там анідзе.*
*І ўсё ж чакаю, бы калісьці,*
*Што, перарваўшы змроку ніць,*
*Усход такою сілай бліснe, —*
*Струна ў тумане зазвініць!*

### Бацькаўшчына

*З двара прыйду і сяду ля агню.*
*Палаюць дровы. Ссечана капуста*
*На градах — блаславенне дню.*
*Змрок у палях — там сіберна і пуста.*
*Узыдзе месяц позна. На парог*
*Я ноччу выйду. У нямым здранцвенні*
*Паветра, далеч. Серабрыцца лог*
*За сажалкай — на ім снуюцца цені.*

*О роднае маё! Як доўга да цябе*
*Ішоў я, кволы падарожнік.*
*О весялосць у восеньскай журбе!*
*Агонь.*
*Саган.*
*Вуголле і трыножнік.*

* * *

*Я не скажу, нібыта*
*Свой лёс хачу іначыць,*
*Пражыта — не забыта,*
*І нешта ўсё-ткі значыць.*

*Хоць час — ён справу робіць,*
*Не ведаючы жалю.*
*Ён каранує дробязь,*
*Падзею — прыніжае.*

*Хоць час па-свойму плоціць:*
*Як набягуць згрызоты,*
*Цвічок ва ўласным боце*
*Страшней, чым «Фаўст» Гётэ.*

*А ў часе небяспекі —*
*З прычыны, без прычыны*
*Падасца чалавеку*
*Сам белы свет з аўчыну.*

*І вось такія справы*
*Такімі вось часамі:*
*Свет белы — ён направа,*
*Налева — ён таксама.*

*Вось так і не інакай!*
*Спытай — адкажа рэха:*
*— Налева — будзеш з плачам,*
*Направа — з горкім смехам!*

*— А напрасткі што свеціць?*
*— Надзея... Тыя ж болькі...*
*— Ну, што ж, я згодны, свеце,*
*Падай надзею толькі!*

### Два падступы да верша

**1**

*Шматок паперы, каранадаш,*
*Яшчэ — цыгарка.*
*Вось гэты дзень — ён будзе наш,*
*Навошта сварка?*

*Са светам згода. Пабрацім*
*Яму ты, свету.*
*Паклічу мару. Абляцім*
*Сваю планету.*

*Глядзі, цудоўная яна,*
*Мая планета.*
*Але вось там ідзе вайна —*
*Ты бачыш гэта.*

*У джунглях стогне барабан —*
*І сэрца скрушыць.*
*А тут, няўмерлыя ад ран,*
*Лунаюць душы.*

*Абмалаціла сталь і медзь —*
*І адляцелі.*
*А ў тых, жывых, яна ледзь-ледзь,*
*Душа, у целе.*

*То голад косіць, то падман —*
*І так старанна.*
*І ад усіх магчымых ран —*
*Марыхуана...*

*Шматок паперы, каранадаш.*
*Яшчэ — цыгарка...*
*Вось гэты дзень, ён наш — не наш,*
*Са святам — сварка.*

**2**

*А знаеш што, а знаеш што,*
*Мой дружа мілы,*
*Ты ля маёй душы пастой*
*У час панылы.*

*Учора думаў: на шыша*
*Мне гэта дробязь?*
*Ну, стане меншаю душа,*
*Ну, меншай зробяць!*

*Ты ўсё ж пастой, ты ўсё ж пастой —*
*Ну, без дакораў.*
*Ну, дык пра што, ну, дык пра што*
*Мы пагаворым?*

*Жыццё — яно адзіны раз, —*
*То знае вучань.*
*Яно, брат, — раз, яно, брат, — квас*
*І ты ўжо змучан.*

*Сагнуць — гаворку завядуць*
*Аб нейкай позе.*
*І ўжо, глядзіш, ужо ваду*
*На гордых возяць.*

*Вядома, трэба і вада —*
*На то мы й людзі.*
*Яе мне нават не шкада*
*Якой занудзе.*

*Яе ты пі, яе ты пі —*
*Да скону века.*
*Ды толькі ў ёй ты не тапі*
*Сучалавека.*

*Дык дай яму і пірагі*
*Яшчэ ў дадатак...*
*Скажу другое ў час другі,*
*А то — пачатак.*

* * *

*Прысніўся верш — не верш, а два радкі.*
*Абломак лодкі ўсплыў са дна ракі,*
*І кружыць вір счарнелую траву.*
*З абломкам лодкі к берагу плыву.*
*Прачнуўся. Дзень трывогаю прапах,*
*І два радкі гаркотай на губах.*

* * *

*Кіну, рыну — пакіну*
*Гэты дом на гары.*
*Горкі дым успаміну*
*Хай развеюць вятры.*

*Хіба гэтак няможна?*
*Дзе пасцелецца цень*
*Ад капы прыдарожнай,*
*Там і будзе пасцель.*

*Мо на Шчару, на Піну*
*Ці на Пціч, Вілію,*
*А мо на лугавіну*
*Я слязу пралію, —*

*Каб зрабілася парай*
*Над ракой, над ракой,*
*Каб здружылася з хмараў*
*Талакой, талакой, —*

*І каб чайкі крычалі,*
*Прадчуваючы гром,*
*Каб на дальнім прычале*
*Здрыгануўся паром!*

* * *

*Паяднай пачатак і канец —*
*Азарацца памяці скляпенні,*
*Каб пад імі сталі палымнець,*
*Ясніцца мінулыя імгненні.*

*То не проста зноў пачаты бег,*
*То жыццё, адчутае прыкметай,*
*Як праз снежань адчуваеш снег,*
*Як праз промень адчуваеш лета.*

*Але ж то і сіратлівы дом,*
*Нота, што адлучана ад спеву,*
*Плынь ракі, што сталася ільдом,*
*Контур голля на бязлістым дрэве.*

*Мы адчуць іх можам — не вярнуць,*
*З іх быццём даступна-недаступным, —*
*Іх, што ў дні аднолькава жывуць —*
*У мінулым, сённяшнім, наступным.*

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by




Фота www.vrk.news

# Кіно замест хлеба

Алег НОВІКАЎ

**Кожная краіна шукае свае метады супрацьстаяння крызісу. У Казахстане на фоне 85-працэнтнага падзення курсу тэнге задумалі зняць серыял. Прычым такі, які б не саступаў славутай «Гульні тронаў». Навошта казахскім чыноўнікам кіно падчас крызісу, распавядае праваабаронца з Алма-Аты Андрэй Грышын.**

***— На базе дзяржаўнай кінастудыі «Казахстанфільм» пачынаюцца здымкі серыяла «Казахскае ханства». Плануецца зняць аж тры сезоны. Прычым аўтары серыялу паставілі перад сабой вельмі высокую планку — твор павінен быць не горшы за «Гульні тронаў». Аднак перш за ўсё ў вочы кідаецца адна супярэчнасць — серыял прымеркаваны да 500-гадовага юбілею Казахскага Ханства, аднак той юбілей, быццам, святкавалі ў мінулым годзе.***

— Гэты каляндарны дысананс заўважыў шмат хто. Нацыянал-патрыятычная грамадскасць была вельмі абураная тым, як улада тасуе важныя для нацыі гістарычныя даты. Вырашылі праблему хутка і арыгінальна. Прыдворныя навукоўцы тэрмінова вылічылі новую дакладную дату казахскай дзяржаўнасці, і яна цудоўным чынам «акругнілася» ў гэтым годзе, пра што і паведаміў народу асабіста Назарбаеў.

***— Прадзюсар фільма кажа, што яго падштурхнулі на здымкі словы Пуціна пра адсутнасць у казахаў дзяржаўнай традыцыі. Наколькі фільм можна разглядаць як адказ Пуціну? Ці здольны серыял падняць узровень нацыянальнай свядомасці?***

— Сапраўды, у цэлым ідэя фільму падобная на адказ Назарбаева на скандальную пуцінскую эскападу. Што тычыцца высокай місіі фільму, дык гэта — як пашанцуе. Не так даўно выпусцілі фільм «Тысяча адважных хлопцаў» пра супрацьстаянне казахаў джунгарам. І ён сабраў унутры краіны прыстойную касу. Але асноўная маса гістарычных фільмаў і баявікоў пасля першага паказу кладуцца на паліцу — і не праз забароны, а проста таму, што ніхто іх не глядзіць. Кожны год выходзіць па адным дарагім фільме пра жыццё Назарбаева, але глядзіць яго адзіны і самы галоўны глядач. Так што просты народ вырашыў: атрымаецца цікава — паглядзім, але ва ўсякім разе грашыма скідацца не станем (на здымкі фільма грошай не хапае, таму яго стваральнікі вырашылі скарыстацца краўдсерфінгам).

***— Як этнічныя рускія краіны, асабліва ў месцах кампактнага пражывання, рэагуюць на прапаганду казахскай ідэнтычнасці?***

— Нельга сказаць, каб з захапленнем, але па-сапраўднаму пра гэта мала хто задумваецца, паколькі ўся прапаганда ідзе ў казахскамоўнай прэсе і такім жа сегменце інтэрнэту, куды рускамоўным з прычыны неразумення дзяржаўнай мовы доступ закрыты.

***— Што ўвогуле ўяўляе сёння казахскае нацыянальнае кіно?***

— Нацыянальнае кіно падзялілася на пяць умоўных узроўняў: першы — дзяржзаказ. Гэта гісторыка-біяграфічныя фільмы, меладрамы; другі — камерцыйнае кіно, разлічанае на мясцовага гледача (і калі пашанцуе, то на расійскага). Трэці — фестывальнае кіно. Вельмі нядрэннае, але разлічанае на паказ «там». Чацвёрты — падпольнае кіно, калі маладыя рэжысёры здымаюць фільмы за капейкі. Часам атрымліваецца нават вельмі не кепска, хаця паказ гэтых фільмаў абмежаваны інтэрнэтам. Нарэшце, пяты — чымкенцкае кіно. Вельмі своеасаблівая тэма. У паўднёвым горадзе Шымкент (Чымкент) выходзіць некалькі дзясяткаў фільмаў у год. Гэта, як правіла, меладрамы, камедыі або дэтэктывы, разлічаныя на паўднёвы менталітэт тутэйшых (наўрад ці іх сталі б глядзець у іншых частках Казахстана). І гэта спрацоўвае! Фільмы збіраюць поўныя кінатэатры, прадаюцца на DVD, увогуле акупляюцца і нават прыносяць, хай не Бог ведае які, але прыбытак. Нешта падобнае ёсць у Афрыцы, так званы Нолівуд у Нігерыі або кінематограф Уганды.

***— Запуск здымкаў неяк звязаны з парламенцкай кампаніяй, якая стартавала на днях? Чым цяперашняя парламенцкая кампанія адрозніваецца ад папярэдніх? Ці будуць у парламенце новыя палітычныя сілы?***

— Наўрад ці ёсць нейкая сувязь паміж фільмам і выбарамі. Усе даўно ведалі, калі яны адбудуцца. Тым больш, нацыянал-патрыёты не ўдзельнічаюць у гэтым свяце жыцця, а фільм па большай частцы апелюе да іх.

Што тычыцца вынікаў кампаніі, то сюрпрызаў ніхто не чакае, асабіста калі ўлічыць, што і папярэднія парламенцкія выбары былі датэрміновымі, пасля таго як дэпутаты таксама раптам «запатрабавалі» самароспуску. На манежу ўсё тыя ж партыі і асобы. Да таго ж улада перастрахавалася загадзя, і за паўгода да гадзіны Х закрыла Камуністычную партыю Казахстана — хай слабую, але адзіную рэальна апазіцыйную сілу, якая магла трапіць у парламент.

***— У фільме будзе здымацца Алія, дачка Назарбаева. Ці не значыць гэта, што Алія ўступае ў бітву за тытул «спадчынніка»? Хто зараз, дарэчы, фаварыт у негалосным спаборніцтве пад назвай «транзіт улады»?***

— Цяжка сказаць, хто ў фаворы. Многія робяць стаўку на прэм'ер-міністра Карыма Масімава, але таямніцы нашага Мадрыдскага двара застаюцца ўнутры. Або, што таксама вельмі верагодна, Назарбаеў да гэтага часу не вызначыўся і нікому не выказвае асаблівага даверу. А Алія Назарбаева — проста дачка, вельмі багаты чалавек (гэта ў роўнай ступені адносіцца да ўсіх дачок прэзідэнта), ніколі ў палітыцы не ўдзельнічала, затое раней знялася ў іншым фільме — «Байканур» (дарэчы, таксама негалосна забароненым у краіне).

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Цяпер афіцыйны Мінск дэманструе дыпламатычныя намаганні для таго, каб санкцыі былі не прыпынены, а адменены. Пра тое, што беларуска-еўрапейскі дыялог ідзе, сведчаць узаемныя візіты. (...) Эканамічная накіраванасць перамоў гаворыць аб тым, што ЕС прыняў умовы Беларусі і гатовы абмяркоўваць менавіта тое, што згодны абмяркоўваць Мінск. У свой нядаўні прыезд дэлегацыя БДІПЧ АБСЕ, канстатаваўшы, што прэзідэнцкія выбары ў Беларусі далёкія ад дэмакратычных стандартаў, фактычна толькі пагразіла пальцам.

**«Независимая газета» (Расія)**

Слабасць Лукашэнкі заключаецца ў тым, што ён стварыў сітуацыю, калі ў Еўропе ў яго няма саюзнікаў. Мы бачылі на прыкладзе вайны Расіі з Грузіяй у 2008 годзе і на прыкладзе вайны з Украінай у 2014–2015 гадах, што ў Грузіі і Украіны саюзнікі знайшліся. Гэтыя саюзнікі не гатовыя былі ўвесці свае войскі на тэрыторыю Грузіі і Украіны, але па меншай меры аказалі на Расію дыпламатычны, палітычны і нават нейкі эканамічны ціск. А вось, калі заўтра расійскія войскі ўвойдуць у Беларусь, ды яшчэ, ведаючы Пуціна, гэта будзе арганізавана як патрабаванне беларускага народа па далучэнні да РФ, то, вядома, бараніць незалежнасць Беларусі Еўропе будзе дастаткова складана, паколькі прыхільнікаў Лукашэнкі ў Еўропе няма.

**«Aravot» (Арменія)**

Улічваючы сумны вопыт украінскага калегі, Лукашэнку варта або выразна расставіць свае прыярытэты і зрабіць стаўку на поўную зачыстку ўсіх сфер грамадства ад праяваў нацыяналізму, альбо чакаць паўтарэння ўкраінскага майдана ў сябе ў краіне. Пры цяперашнім стаўленні беларускіх уладаў да росту русафобіі, дзяржаўны пераварот у краіне — гэта ўсяго толькі пытанне часу. Але часу застаецца ўсё менш.

**«Фонтанка» (Расія)**

Мінск традыцыйна імкнецца праводзіць актыўную дыпламатычную дзейнасць на ўсіх напрамках. Гэта можна толькі вітаць: у сучасным свеце нельга пазбягаць міжнародных зносін. Аднак, па меры развіцця гэтых кантактаў, гаворка ўсё часцей заходзіць пра каштоўнасці беларускага грамадства, якія, на думку еўрачыноўнікаў, маюць патрэбу ў карэкціроўцы. Прадстаўнікі аб'яднанай Еўропы маюць намер ушчыльную заняцца «беларускай Вандэяй», якая не прыняла ўльтраліберальныя правілы гульні пасля распаду СССР. (...) На Захадзе Беларусі прапануюць змяніць амплуа, прымераўшы на сябе ролю «новай Швейцарыі», нейтральнай у дачыненні да Расіі.

**RuBaltic.Ru (Расія)**

Калі Пуцін і ў далейшым будзе праводзіць такую ж «міралюбную» палітыку, не тое, што Фінляндыя, Лукашэнка паспрабуе ўступіць ў NATO.

**«Цэнзор» (Украіна)**

Беларусь у плане ваеннай ацэнкі з'яўляецца дзяржавай, на якую трэба глядзець сур'ёзна, нягледзячы на тое, што ў апошні час публічна робяцца заявы пра тое, што ў Лукашэнкі намячаецца свая гульня ў сферы бяспекі. Беларусь — гэта саюзная Расіі дзяржава, яна неаднаразова надавала сваю тэрыторыю для размяшчэння расійскіх войскаў у ходзе ваенных манеўраў з агрэсіўнымі сцэнарамі з мэтай дэблакіроўкі Калінінградскай вобласці. Гэтыя ваенныя гульні прайграваліся неаднаразова, і несумненна, калі такія сцэнары прайграюцца, то ўзброеным сілам Беларусі надаецца пэўная роля.

**Delfi (Літва)**

Кіраўніцтва Беларусі зрабіла заказ на канструяванне новай ідэнтычнасці беларусаў, заблакаваўшы пры гэтым магчымасці змены ўлады, адстойвання сваіх правоў у судзе і іншыя механізмы народаўладдзя. Масква не ўмешваецца ў тое, што адбываецца, як не ўмешвалася раней у працэсы на Украіне, у Прыбалтыцы і ў іншых постсавецкіх утварэннях.

**REGNUM (Расія)**

Рэзкага павароту на 180 градусаў у нацыянальнай палітыцы чакаць, відавочна, не варта. Ідзе акуратнае прамацванне глебы для змены палітыкі. Яна і мяняецца. Асцярожна, без рэзкай дэманстрацыі. Што, у прынцыпе, зразумела. Працэсы, якія набралі ў сілу «ў цішыні», лепш гучных заяў з «пшыкам» замест вынікаў. Адным словам, хуткай і рэзкай беларусізацыі не будзе. А вось паступовая праца будзе працягвацца.

**НТН (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. Праз два гады краіна знікне

У кішынёўскай прэсе пашыраецца ідэя наконт таго, што ў нетрах амерыканскай адміністрацыі ўхвалены праект «Unirea 2018» — план далучэння Малдовы да Румыніі ў год стагоддзя румынскай анексіі Бесарабіі ў 1918-м. Другая версія — «Unirea 2018» (па-румынску «аб'яднанне») будзе паднесена як паскораны варыянт еўраатлантычнай інтэграцыі: адной цудоўнай раніцай жыхары Малдовы, паглядзеўшы ў вакно, раптам зразумеюць, што аказаліся ў складзе Румыніі і, адпаведна, у ЕС і NATO. Задуманы ў ЗША праект «Unirea 2018» не прадугледжвае ніякіх выбараў — ні датэрміновых, ні чарговых. Запуск аперацыі «Unirea 2018» плануецца, калі ў сакавіку да ўлады на выбарах прыйдзе прамаскоўскі па палітычных поглядах прэзідэнт. Плёткі пра «Unirea 2018» выклікаюць давер у грамадстве, паколькі Румынія апошнімі днямі сапраўды вельмі актыўная ў малдаўскім пытанні. А вось аналітычная супольнасць Малдовы асцярожна каменце медыйную сенсацыю. Калі план «Unirea 2018» і існуе, то ён супярэчыць логіцы ЕС. Брусэль бачыць Малдову часткай так званай буфернай зоны паміж ЕС і Расіяй, кантроль над якой павінен ажыццяўляцца з дапамогай пагадненняў аб асацыяцыі і зоне свабоднага гандлю, а таксама нарматыўнымі дакументамі аб супрацоўніцтве ў галіне абароны і бяспекі.

**Паводле малдоўскай прэсы**

### ЗША. Адзін з прэзідэнтаў быў мусульманінам

Даволі аўтарытэтнае амерыканскае выданне «New Republic» апублікавала скандальны артыкул. Калі верыць яго аўтару, адзін з заснавальнікаў ЗША, прэзідэнт Томас Джэферсан, быў мусульманінам. Такія высновы будуюцца на гістарычных матэрыялах. Падчас выбарчай кампаніі Джэферсана праціўнікі вінавацілі яго менавіта ў тым, што ён вызнае іслам. Падставамі для такіх абвінавачванняў была дыпламатычная праца Томаса Джэферсана ў Францыі па вызваленні амерыканскіх грамадзян, якія трапілі ў палон да піратаў Паўночнай Афрыкі. Некаторыя з тых палонных, сапраўды, прымалі іслам і пасля вяртання на радзіму стварылі тут першыя ісламскія камуны. Тэорыя журналістаў мае слабыя месцы, паколькі, як сведчаць сучаснікі, Джэферсан, як дзіця свайго часу, прывятна крытыкаваў усе рэлігіі. У любым выпадку, Джэферсан адназначна з'яўляецца першым амерыканскім палітыкам, якога спрабавалі скампраметаваць праз абвінавачанне ў сімпатыях да ісламу.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ТУРКМЕНІЯ. Будзе новая Канстытуцыя

У бліжэйшы час на суд туркменаў будзе вынесены праект новай Канстытуцыі дзяржавы. Зараз краіна жыве паводле Канстытуцыі 1992 года, куды праз парламент пазней былі ўнесеныя карэктывы. Па чутках, асноўная інавацыя — замацаванне шматпартыйнасці і плюралізму палітычных поглядаў. Мяркуецца, што гэта ініцыятыва прэзідэнта Бердымухамедава, які спрабуе замацаваць за сабой імідж дэмакратычнага лідара і зблізіцца з Захадам для прыцягнення інвестыцый у энергетычную сферу. Цяжка сказаць, наколькі гэта схема спрацуе, паколькі раней акрамя прапрэзідэнцкай Дэмакратычнай партыі ў Туркменістане былі заснаваныя яшчэ дзве — Партыя прадпрымальнікаў і Аграрная партыя. Аднак эйфарыі на Захадзе бум партыйнага будаўніцтва ў Туркменіі не выклікаў, паколькі значнага палітычнага ўплыву ў грамадстве гэтыя партыі не маюць. Сярод іншых цікавых паправак у новы праект Канстытуцыі, як піша прэса, будзе катэгарычная фіксацыя статусу пастаяннага нейтралітэту Туркменіі.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Лібералы супраць Сянкевіча

Польскі прэзідэнт Анджэй Дуда абвясціў 2016-ы год — годам славутага польскага пісьменніка Генрыха Сянкевіча і ў рамках рэкламы разам з жонкай публічна зачытаў фрагмент з аднаго з твораў. Прапанова, падавалася, заслугоўвае выключна падтрымкі. Хаця б з улікам таго, што, паводле статыстыкі, дзве трэці палякаў у мінулым годзе ўвогуле не трымалі кніжку ў руках. Аднак ліберальныя каментатары знайшлі і тут палітычны падтэкст. На іх думку, правыя палітыкі спецыяльна абралі для прапаганды Сянкевіча, паколькі яго творы адпавядаюць ідэалогіі кіруючай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS). Сянкевіч, які пісаў у часы падзелу Польшчы, сапраўды, узбуджаў нацыянальны дух палякаў, прычым прыёмамі літаратурнага рамантызму, калі рэальнасць бачыцца па прынцыпе чорнае-белае. На думку лібералаў, прапагандаваць Сянкевіча ў XXI стагоддзі вельмі небяспечна, паколькі гэта стварае ў моладзі неадэкватны малюнак свету, у тым ліку адносна саюзнай Украіны. З улікам таго, што Сянкевіч атрымаў Нобеля, гэтыя тэзісы ўспрымаюцца асцярожна нават на форумах ліберальных выданняў. У любым выпадку, такая эмацыйная рэакцыя апазіцыі на ідэю Дуды сведчыць пра імклівы рост канфрантацыі ўнутры польскага грамадства.

**Паводле польскай прэсы**

# Футбол і прэзідэнцкія выбары

*Алег НОВІКАЎ*

**Super Bowl — фінальная гульня за званне чэмпіёна Нацыянальнай футбольнай лігі (NFL) — адбыўся ў ЗША 7 лютага. Сам фінал і маштабныя святкаванні, якія праходзяць паралельна гульні, за 50 гадоў існаванняператварылі Super Bowl у агульнанацыянальную падзею, якая ў тым ліку ўплывае на палітыку і вынік прэзідэнцкіх выбараў.**



Фота www.ibtimes.com

Каб ацаніць значэнне Super Bowl для амерыканскай культуры, дастаткова пачытаць артыкул у газеце «Wall Street Journal» ад 8 лютага 2016-га, у якім прапануецца абвясціць панядзелак — наступны дзень пасля нядзелі, калі адбываецца фінал, — дзяржаўным святам. Логіка ініцыятара зразумелая. Super Bowl святкуецца так шырока, што на наступны дзень пасля фіналу ўся Амерыка ледзь-ледзь адыходзіць ад наступстваў святкаванняў. Дарэчы, гэтую ідэю актыўна падтрымалі амаль усе кандыдаты ад Рэспубліканскай партыі.

З улікам маштабаў папулярнасці Super Bowl і амерыканскага футбола, без палітыкі тут, натуральна, не абыходзіцца. Увогуле, калі б не палітыкі, магчыма, амерыканскі футбол забаранілі б яшчэ сто гадоў таму. Так здарылася, што ў 1905 годзе за адзін сезон ад атрыманых на полі траўмаў памерлі 18 (!) футбалістаў. Натуральна, сярод грамадскасці дыскутавалася пытанне забароны футбола.

На дапамогу спартоўцам і заўзятарам прыйшоў асабіста прэзідэнт Тэадор Рузвельт. Ён падкарэктаваў правілы гульні, забараніўшы найбольш жорсткія прыёмы, накшталт калектыўных клінаў, і пастанавіў стварыць спецыяльную асацыяцыю, клубы-ўдзельнікі якой мусілі гуляць па зацверджаных ім правілах.

Магчыма, менавіта футболам зрабіў сабе імя Рональд Рэйган, які ў 1940 годзе выканаў ролю легендарнага футбаліста (George Gipp), які памёр ва ўзросце 25 гадоў у зеніце славы. Фільм меў гучны поспех, і да Рэйгана прыклеілася мянушка «Гіппер». Пазней, падчас выбарчай кампаніі, ён ахвотна параўноўваў сябе са сваім персанажам. Пірыліся на футболе і іншыя. Біл Клінтан, калі пачынаў гонку за пасаду губернатара Арканзаса, выкарыстоўваў футбольную тэрміналогію ў тэксце сваёй выбарчай праграмы. Неяк выступаючы перад аўдыторыяй, ён заявіў: «Калі нешта сапраўды важна для нас, як футбол, — мы паклапоцімся пра факты».

Часам практыка выкарыстаць футбол мела негатыўныя наступствы для палітыкаў. Напрыклад, Рычард Ніксан — фанат сталічнай каманды «Redskins», спрабаваў перад фіналам 1971-га па тэлефоне даваць інструкцыі трэнеру. У выніку фінальны матч «Redskins» прайгралі. Пасля таго, як гісторыя пра няўдалага трэнера-прэзідэнта трапіла ў прэсу, рэйтынгі Ніксана пайшлі ўніз. Некаторыя гісторыкі лічаць, што з-за гэтага грамадства абыякава паставілася і да імпічменту Ніксана, які стаў наступствам Уотэргейта.

Натуральна, не абышлі тэму футболу і цяперашнія кандыдаты ў прэзідэнты. На думку прэсы, Super Bowl–2016 вельмі кепска

**Калі ў год прэзідэнцкіх выбараў перамагала каманда з AFC, прэзідэнтам станавіўся рэспубліканец. У выпадку трыумфу клуба ад NFC — кандыдат-дэмакрат**

паўплывае на кампанію Дональда Трампа, паколькі касцяк футбольных фанатаў — простыя людзі, якія ў вольны ад футболу час захапляліся папулісцкімі прамовамі Трампа. Атмасфера вакол футболу (звычайна нагнятаць інтрыгу вакол фіналу пачынаюць за тыдзень) яўна пераключыла іх увагу ад праймерыз. Акрамя таго, на Super Bowl звычайна выцягваюць музычных зорак, акцёраў, вядомых асобаў, якія таксама аслабілі інтарэс да скандальнага кандыдата. Трамп, дарэчы, сам прызнаўся, што інтарэс да яго знізіўся праз футбол.

Спрабуе выкарыстаць Super Bowl Хілары Клінтан. Сімпатызуючыя ёй палітычныя каментатары звяртаюць увагу на каласальныя грошы, што былі ўкладзеныя буйнымі кампаніямі ў гэта спартовае шоу, якое вельмі падабаецца людзям. А чаму ў такім выпадку амерыканцам не можа падабацца тое, што буйны капітал дапамагае той жа Хілары рабіць якасную выбарчую кампанію? Тэма ўдзелу буйных трэстаў у фармаванні бюджэту выбарчага штаба Клінтан вельмі важная для яе, паколькі менавіта на гэтым часта гуляе асноўны канкурэнт Хілары — Берні Сандэрс. «Калі прэзідэнцкая кампанія будзе праходзіць па тых жа стандартах, што і матч камандаў «Broncos» і «Panthers», то шмат з нас будуць за ёй сачыць. Мы павінны вітаць камерцыялізацыю», — заключае адзін з калумністаў з «The Washington Post».

Што тычыцца кандыдатаў-рэспубліканцаў, то большасць з іх (у тым ліку пераможца першага праймерыз Тэд Круз) кінулася падтрымліваць каманду «Panthers» з Караліны. Гэта тлумачыцца тым, што Караліна адносіцца да паўднёвых штатаў, дзе, як правіла, галасуюць за партыю «сланоў». Напярэдадні праймерыз на Поўдні, і імідж фаната клубу з Караліны можа дадаць пунктаў. Праўда, у выніку «Panthers» прайгралі камандзе «Broncos» з Дэнвера, што выклікала новыя незвычайныя спрэчкі.

Справа ў тым, што яшчэ ў 1990-я гады аматары спартовай статыстыкі заўважылі цікавую акалічнасць, якая, быццам, дазваляе спрагназаваць вынікі прэзідэнцкага галасавання. Пачаць трэба з таго, што ў фінальнай гульні сустракаюцца прадстаўнікі дзвюх ліг: Амерыканскай Футбольнай Канферэнцыі (AFC) і Нацыянальнай Футбольнай Канферэнцыі (NFC), якія структурна ўваходзяць у Нацыянальную футбольную лігу (NFL). Калі ў год прэзідэнцкіх выбараў перамагала каманда з AFC, прэзідэнтам станавіліся рэспубліканцы. У выпадку трыумфу клуба ад NFC — пераможцам на выбарах выходзіў кандыдат-дэмакрат.

Паколькі цяперашні ўладальнік чэмпіёнскага тытулу Broncos гуляе ў AFC, атрымліваецца, што ўвосень трэба чакаць перамогі кандыдата ад рэспубліканцаў. Праўда, з улікам хаосу, які пануе ў рэспубліканскім лагеры, і засілля там радыкалаў, цяжка ўявіць сабе, хто зможа на роўных супрацьстаяць Хілары Клінтан — найбольш верагоднаму прадстаўніку дэмакратаў. З іншага боку, у палітыцы, як і ў спорце, магчыма ўсё.



Фота www.dailysabah.com

# Інтэрнацыянал PEGIDA

Алег НОВІКАЎ

**Рост антыімігранцкіх настрояў у Еўропе выклікаў бум лакальных ісламафобскіх ініцыятыў, якія працуюць пад дахам брэнда PEGIDA. На мінулым тыдні новы інтэрнацыянал правёў першую агульнаеўрапейскую акцыю.**

Адказаць на пытанне, чаму менавіта група PEGIDA, якая паўстала ў Дрэздэне, стала арыенцірам для ксенафобскіх груповак ва ўсёй Еўропе, няцяжка. Прыкладна ўлетку 2014-га ў сталіцы Саксоніі пачаліся штопанядзелкавыя акцыі супраць імігрантаў. Арганізатарамі акцый былі прадстаўнікі розных праварадыкальных груповак, аднак у выніку пратэст манапалізавала арганізацыя PEGIDA, якая расшыфроўваецца як «Еўрапейскі патрыятычны фронт супраць ісламізацыі Захаду».

Праз шэраг фактараў (у тым ліку і дзякуючы негалоснай падтрымцы правых уладаў горада) панядзелкавая маніфестацыя стала традыцыйнай, і пра яе пачалі пісаць буйныя медыя, каментаваць вядомыя палітыкі. Паступова тэрмін PEGIDA замацаваўся ў журналісцкім лексіконе ўсіх краін ЕС.

Нягледзячы на ўнутраныя супярэчнасці, і нават шэраг расколаў, саксонская групоўка PEGIDA здолела праіснаваць да восені 2015 года, калі мільённая іміграцыйная хваля з Усходу каталізавала рух. Секцыі PEGIDA пачалі ўзнікаць не толькі ў іншых гарадах ФРГ, аднак і ў іншых краінах Еўрасаюза. У дрэздэнскіх ісламафобаў з'явіліся сябры нават у далёкай Аўстраліі.

У мінулую суботу інтэрнацыянал ксенафобаў правёў першую агульнаеўрапейскую акцыю, і трэба сказаць, што блін не атрымаўся камяком. Амстэрдам, Прага, Кале, Бірмінгем, Дублін, Вроцлаў, Браціслава, Грац, Манпелье, Брно, Талін, Варшава і, натуральна, вотчына руху Дрэздэн — геаграфія заяўленай раней акцыі «Крэпасць Еўропа». Акцыя месцамі, як у Кале і ў Празе, ператварылася ў атакі на эмігрантаў і бойкі. Канструктыўны блок лозунгаў маніфестантаў складаўся з заклікаў зачыніць межы ЕС, забараніць іслам у краінах ЕС, абмежаваць уплыў Брусэля на нацыянальныя ўрады і галіне праблемы мігрантаў. Гэта пераказ агульнага дакументу «Пражская заява», якую лідары PEGIDA з 10 краінаў падпісалі ў Празе ў студзені.

Аднак аптымізм выклікае тое, што практычна ў кожным горадзе, дзе праходзіла «Крэпасць Еўропа», мабілізаваліся і грамадзяне, якія былі супраць мерапрыемстваў PEGIDA.

Агульнаеўрапейская акцыя выклікала ў прэсе дэбаты — ці ў стане PEGIDA трансфармавацца ў шырокі рух, ці будзе яна ўплываць на палітычныя трэнды. Пакуль еўрапейская прэса не бачыць у вулічных ініцыятывах ісламафобаў сур'ёзнай палітычнай пагрозы. Як піша французскі часопіс «Marianna», аналізуючы мясцовую версію PEGIDA, пакуль рух рэкрутуе сяброў з актыву старых праварадыкальных гурткоў. У PEGIDA, як правіла, пераходзяць, каб узняць свой аўтарытэт за кошт раскручанага брэнда. Такім жа чынам у прэсе ацэньваюць генезіс брытанскай і польскай PEGIDA.

Сацыяльную маргінальнасць PEGIDA тлумачаць і тым, што нават ксенафобскі настроены бюргер пакуль надае перавагу парламенцкім метадам барацьбы за нейкія рэформы. Практычна ў кожнай краіне ЕС як грыбы пасля дажджу паўстаюць правапапулісцкія партыі, некаторыя з якіх маюць добрыя электаральныя пазіцыі. Лідары гэтых партый, у сваю чаргу, заклікаюць прыхільнікаў утрымацца ад вулічнага экстрэмізму. Так, напярэдадні акцыі «Крэпасць Еўропы» адпаведную заяву зрабілі лідары французскага Нацыянальнага фронту.

Калі меркаваць па сацыялогіі, пакуль большасць (85 працэнтаў) аматараў PEGIDA таксама збіраюцца мяняць сітуацыю праз паход на выбарчыя ўчасткі. Цікава, што 20 працэнтаў сярод іх, нягледзячы на свае ісламафобскія забабоны, сімпатызуюць левым партыям — эсдэкам і Зялёным. Нарэшце, нават у Германіі, дзе акцыі PEGIDA праходзяць рэгулярна і збіраюць да 15 тысяч чалавек, выбудаванай структуры не паўстала. На міжнародным узроўні сітуацыя яшчэ горшая. Фактычна, гэта нешта сярэдняе паміж франшызай і інфармацыйным абменам. Не зразумелы і алгарытм, праз які PEGIDA хоча дабіцца пераменаў, паколькі лабістаў у заканадаўчых органах у яе няма.

Ёсць думка, што дрэздэнскую мадэль нельга імпартаваць у замежжа. Не дарма ў нямецкай прэсе некаторыя палітолагі называлі PEGIDA феноменам посткамуністычнай усходненямецкай палітычнай культуры. Дрэздэнская саксонская прэса цытуе Ханса Ворляндэра, вядучага нямецкага даследчыка, які скептычна ставіцца да тэзіса пра тое, што Дрэздэн здольны стаць сталіцай ісламафобскай Еўропы. Па яго словах, нягледзячы на моцныя нацыяналістычныя рухі ў Еўропе, супярэчнасці паміж іх лідарамі яшчэ больш моцныя, не кажучы пра супярэчнасці паміж іх шараговымі актывістамі.

Між тым, у руху можа паўстаць каардынацыйны цэнтр. Польская «Газета выборча» прагназуе кааперацыю паміж Масквой і новым інтэрнацыяналам, паколькі дзейнасць PEGIDA аб'ектыўна спрыяе інтарэсам Крамля — рост крытыкі на адрас палітычнай эліты ў ЕС, вымагае ад іх сканцэнтравацца на ўнутраных справах, ахвяраваўшы знешняй палітыкай, і ў тым ліку ўкраінскім пытаннем. Вядучую функцыю ва ўсталяванні кантактаў, на думку польскай прэсы, будзе гуляць рэдакцыя вельмі папулярнага сярод нямецкіх ісламафобаў сайту «Compact».

Што тычыцца саміх лідараў PEGIDA, то яны разглядаюць акцыю 6 лютага як спробу сілаў. На іх думку, тэктанічныя змены на старым кантыненце пачнуцца, калі ў Еўропу прыйдзе наступная буйная партыя эмігрантаў, якая, быццам, ужо на шляху. Ісламафобы кажуць, што зараз у Еўропу рухаецца да 8 мільёнаў чалавек.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сяргей Обухаў



Сакратар ЦК Кампартыі Расійскай Федэрацыі лічыцца галоўным ініцыятарам лісту шэрагу дэпутатаў Дзярждумы да прэзідэнта РФ Уладзіміра Пуціна і кіраўніка МЗС Сяргея Лаўрова, у якім прапануецца дэнансаваць Карскую, або, як яе яшчэ называюць, расійска-турэцкую дамову аб дружбе і братэрстве, падпісаную 16 сакавіка 1921 года ўрадам РСФСР і ўрадам Вялікага народнага сходу Турцыі. Паводле яго, да Турцыі адышлі Карская вобласць, а таксама адзін з паветаў Эрыванскай губерні са святой для армян гарой Арарат. У сваім лісце дэпутаты адзначаюць «паслядоўную лінію агрэсіўных паводзінаў» Анкары ў дачыненні да Масквы, што, маўляў, і дае падставы для рэвізіі дакумента ад 1921 года. У сваю чаргу, эксперты пішуць, што Обухаў дзейнічае па замове Крамля, каб аказаць сімвалічны ціск на Анкару. Ключавы момант заключаецца ў тым, што дэнансацыя Дамовы можа прывесці да сур'ёзных наступстваў, і нават да ваеннага канфлікту. Пры гэтым ваяваць давядзецца на турэцкай тэрыторыі, да чаго ніхто ў Расіі відавочна не гатовы.

### Франсуа Аланд



Шмат французаў цяпер сапраўды ўдзячныя прэзідэнту Францыі. Усё таму, што ён падпісаў амністыю для Жаклін Саваж, якая застрэліла свайго мужа. Прычынай для забойства стала самагубства сына, які не вытрымаў здзекаў бацькі. Апошні таксама рэгулярна збіваў і гвалціў трох дачок Жаклін. У 2014 годзе суд пастанавіў даць Жаклін дзесяць гадоў турмы, адкінуўшы версію, што яна дзейнічала ў мэтах самаабароны. У снежні мінулага года прысуд пацвердзіў апеляцыйны суд. Рашэнні Феміды выклікалі моцныя пратэсты ў краіне. У выніку пад петыцыяй аб амністыі для Жаклін былі сабраныя 400 тысяч подпісаў, якія даслалі ў Елісейскі палац. Пасля кансультацый з адвакатамі і роднымі Жаклін Аланд пагадзіўся скарыстацца правам на амністыю. Прэса, праўда, не выключае, што жэст меў кан'юнктурны характар. Рашэнне было прынятае якраз напярэдадні выхаду ў свет скандальнай кнігі Крысцін Табіра (Christiane Taubira), экс-міністра юстыцыі, «Murmures a la jeunesse», дзе на 96 старонках раскрытыкавана французская сістэма бяспекі, слабасць якой дазволіла ісламскім радыкалам правесці шэраг гучных тэрактаў.

### Юліус Малема



Лідар радыкальнай партыі «Змагары за эканамічную свабоду», што дзейнічае ў Паўднёвай Афрыцы, лічыцца самым вялікім барацьбітом з рэліктамі брытанскага каланіялізму і рэжыму апартэіду, прычым не толькі ў Афрыцы. З яго падачы OUSU — студэнцкі прафсаюз універсітэта ў брытанскім Оксфардзе — пачаў кампанію за тое, каб з тэрыторыі ВНУ прыбралі выяву Джона Сесіля Родса. Апошні лічыцца эталонам брытанскага каланіялізму, бо паспеў за сваё жыццё (1853–1902) далучыць да Брытанскай Кароны вялізарныя тэрыторыі ў Афрыцы, на якіх сёння месцяцца дзяржавы Зімбабве і Замбія. У дадатак Родс быў спонсарам Оксфарда, дзякуючы чаму і заслужыў сабе помнік, на які цяпер паклалі вока байцы з каланіялізмам. Дадатковым імпульсам для іх актыўнасці быў той факт, што студэнты Кейптауну пад кіраўніцтвам Малемы дабіліся дэмантажу помніка Родсу ў мясцовым універсітэце. А вось у Оксфардзе Родс пакуль што выстаяў. Адміністрацыя ўніверсітэта заявіла, што не гатовая зносіць помнік, паколькі ў склад OUSU уваходзяць меншасць прадстаўнікоў студэнцкага корпусу. Брытанская прэса ў большасці падтрымала такое рашэнне, паколькі фонд Родса (зараз ён называецца Фонд Родса—Мандэлы) даў магчымасць вучыцца ў Оксфардзе толькі ў мінулым стагоддзі больш за 8 тысячам студэнтаў з краін былой Брытанскай Імперыі. Некаторыя са стыпендыятаў сталі пасля вяртання на радзіму кіраўнікамі сваіх краінаў. Аднак Малема ўжо заявіў, што працягне вайну з оксфардскім помнікам Родсу, паколькі гэта ганьба для кожнага афрыканца.

# Сяргей Вераціла: Звер ёсць

Напэўна, гэта самы неадзначаны персанаж літаратурнага бамонду Беларусі, якога шмат хто не прымае. Чаму? Сяргей Вераціла ніколі не імкнецца здавацца лепш, чым ёсць на самай справе. А яшчэ ён гаворыць у вочы тое, што думае, а гэта мала каму падабаецца. Вось што расказвае пра сябе сам Сяргей.

**Аляксандр Тамковіч**

## Бацькоўскі парог

Пачну з дзеда па лініі маці. Іван Лук'янавіч быў вельмі неардынарным чалавекам. Падчас Першай сусветнай вайны за тое, што абараніў сваю роту ад першай газавай атакі немцаў, здагадаўшыся схавацца ў сена, яго хацелі ўзнагародзіць і прапанавалі на выбар — альбо георгіеўскі крыж, альбо яфрэйтара. За «Георгія» пасля вайны плацілі добрую пенсію, а за чын — 99 капеек у месяц, плюс штодня белая булка. Дзед слушна разважыў, што да канца вайны трэба яшчэ дажыць, і абраў нашыўку на пагоны. Дарэчы, ён служыў у так званых сібірскіх палках.

Потым дзед рабіў рэвалюцыі: адну — у лютым, другую — у кастрычніку. Прымаў удзел у Грамадзянскай вайне і ваяваў з англічанамі ў Мурманску. Затым бунтаваў у Кранштаце і быў сярод тых, хто не паверыў Леніну. Сышоў у Фінляндыю, што і захавала яму жыццё.

Праз некалі месяцаў ён пешкі вярнуўся на радзіму. Ішоў па чыгунцы, праз Латвію. І ўспамінаў, што столькі ваўкоў ніколі не бачыў. На жывых яны не нападалі, хапала трупаў. Аднойчы ён прачнуўся ад таго, што нехта пачаў грызці пальцы на нагах. Ваўка дзед ткнуў нажом, адбег і потым двое сутак не спаў. Пакуль не дайшоў да Воршы, а там ужо было не далёка да роднага Сенненскага раёна.

А мой бацька Аляксандр Аляксандравіч 1925 года нараджэння родам з Гарадзеншчыны, з вёскі Карпаўцы Ваўкавыскага раёна.

Бацька да вайны паступіў у Беластоцкі чыгуначны тэхнікум, што было марай многіх беларусаў. Вайна застала бацьку менавіта там, і ён пачаў адступаць разам з савецкім войскам. Дабраўся аж да Масквы. Там усіх чыгуначнікаў сабралі разам і накіравалі ў Калугу.

У якасці ежы ім давалі ўсяго па 150 грамаў кукурузнай мукі. І больш нічога. Што хочаш, то і з яе ляпі... Галодныя хлопцы (сярод якіх было шмат заходніх беларусаў) прасілі міласціну, але мясцовыя нічога на давалі. Казалі — палякі. Бацька вельмі крыўдаваў. Маўляў, які ён паляк, праваслаўны — значыць, аўтаматычна рускі. Аднак па-руску ён гаварыць не ўмеў, толькі мог вельмі добра чытаць.

У Калузе ён так моцна сапсаваў свой страўнік, што потым усё жыццё амаль не ўжываў алкаголю. Так што сэнс паняцце «п'яны бацька» я ведаў толькі ад знаёмых і суседзяў і ў дзяцінстве ніколі не баяўся п'яных людзей.

Потым прыехалі «пакупнікі», і ўсіх разабралі па вайсковых вучэльнях, дзе за некалькі месяцаў падрыхтоўкі давалі лейтэнанцкія пагоны. Бацька трапіў «на артылерыста».

Напрыканцы вучобы прапанавалі запоўніць анкету. Па сваёй прастадушнасці ён напісаў, што бацькі жывуць на акупаванай тэрыторыі. І яго адразу адлічылі. І накіравалі на чыгунку звычайным качагарам.

Таварняк цягнулі адразу тры паравозы. Два спераду, адзін — ззаду, які называўся «піхач». Тапілі не вугалем, а дровамі. Спалі прама там. Не мыліся, і таму вошы аж кішэлі. Бацька расказваў, што на стаянцы выбежыш, здымеш кашулю і катаеш па ёй бутэлькай. Аж трэск стаіць.

Потым яго кінулі ў Чачню, дзе ён удзельнічаў у дэпартацыі чачэнцаў. Як качагар цягніка, канешне. Як чачэнцаў заганялі ў вагоны, ён не бачыў. Бачыў толькі, як трупы (дзяцей, жанчын, старых) выкідалі праз вокны — памерлых ніхто не хаваў.

Вайну бацька скончыў у Кёнігсбергу.

У бацькі былі два малодшыя браты. Абодва засталіся «пад акупацыяй». Іван троху меў адносіны з партызанамі, а Анатоль толькі пасвіў дзедавых кароў. Абодва ёсць у кніжцы пра піянераў-герояў. Смех. Мясцовыя старажылы мне расказвалі, што ніякай арганізацыі з назвай «Піянерскі тайнік» на самай справе не існавала. Яе прыдумалі. Падумайце: «кіраўніку» арганізацыі тады было толькі пяць гадоў...



Мінск, Музей камянёў



Маці Ганна Іванаўна (стаіць) з сяброўкай



Бацька Аляксандр Аляксандравіч

Партызаны ў нашых мясцінах з'явіліся толькі ў сярэдзіне вайны і адзначыліся тым, што забілі нямецкага доктара ў вёсцы Шабулічы (эсэсаўцы потым спалілі гэтую вёску разам з жыхарамі) і за тры дні да вызвалення ўзарвалі турбіну на цэментным заводзе.




Сяргей Вераціла. Крым

А маці Ганна Іванаўна ўвесь час была «пад немцамі» на роднай Сенненшчыне. Яе нават уганялі на работы ў Германію. Тры разы ўцякала: двойчы з размеркавальнага пункту, адзін — прама з вагону.

У 1955 годзе яна пабралася шлюбам, а ў 1961 годзе (29 красавіка) у Ваўкавыску на свет з'явіўся я.

## Ад бацькоўскага парога

Мы жылі ў рабочым пасёлку Краснае Сяло, што ў 12-ці кіламетрах ад Ваўкавыску і ў 3-х — ад знаёмай усім лётчыкам (і не толькі) Росі. У мяне яшчэ ёсць старэйшая на тры гады сястра Ніна. Раней яна працавала ў дзіцячым садку, а зараз на пенсіі.

Спачатку мы жылі ў былым «даходным доме», якія ў нас называюць камяніцамі. Потым далі двухпакаёвую хрушчоўку, дзе была свае ванна, калонка, кухня, прыбіральня і паравое ацяпленне, якое трэба было награваць печкай, што тапілася вугалем. Блага, мой бацька ўжо працаваў машыністам паравоза і кішэнях цягаў з работы вугаль. Ім мы і тапілі.

Бацька быў вельмі добрым садаводам. Дрэвы яго слухаліся. За два кіламетры ад дома было наша лецішча. На адным ствале бацька рабіў па дваццаць прышчыпак. Яблыкі розных колераў, розных гатункаў. Акрамя гэтага грушы, вішні, чарэшні. Кусты агрэсту, чорных і чырвоных парэчак і г.д.

Спачатку бацька саджаў тое, што расце ў нашых мясцінах. Потым пачаў пісаць лісты знакамітым садаводам, прафесарам. Саджанцы яму прысылалі з усяго Савецкага Саюзу.

Падчас маіх бадзянняў маці тое лецішча прадала.

Маё свабодалюбства пачалося яшчэ ў дзяцінстве. З самага пачатку я быў абсалютна некіравальным дзіцём. З дзіцячага садка мяне пастаянна выганялі, таму маці прыходзілася браць для мяне нянек з вёсак.

Тое ж самае працягвалася ў школе. У першы клас я прыйшоў цалкам падрыхтаваным. Умеў чытаць, пісаць, складаць, аднімаць, да тысячы лічыў, а там малююць «палачкі». Там чытаюць па складах, а мне ўжо ў бібліятэцы выдаюць кнігі. Словам, вучыцца мне было вельмі сумна. Можа, менавіта з гэтай нагоды і пачаў хуліганіць.

Але гісторыя і геаграфія мяне цікавілі. На іх расказвалі пра далёкія краіны і іх мінулае.

Старэйшы бацькаў брат дазваляў мне чытаць на гэты конт яго энцыклапедыю, а другі (малодшы) даваў чытаць падшыўкі дэфіцытнага часопісу «Вокруг света». Альбо сам пераказваў змест цікавых артыкулаў, бо быў цудоўным расказчыкам.

Увогуле ж у бацькі было двое братоў і тры сястры.

Школа была кашмарам жыцця. Напэўна, для мяне стаць пад расстрэл было б лягчэй, чым штодзённа туды хадзіць. Прычым, канфлікты былі не толькі з настаўнікамі, але і з другімі вучнямі.

Цікава, што разам з прагай бунтарства і свабоды ва мне была вялікая прага да тых ведаў, якія падабаліся. Гутарка не толькі пра геаграфію з гісторыяй. Былі даспадобы добрая літаратура, паэзія.

З павагі да бацькоў мяне літаральна перапіхвалі з класа ў клас. Напрыклад, з настаўніцай нямецкай мовы ў мяне быў дагавор: я не хаджу на ўрокі, а яна мне за гэта ставіць «траякі». Лагічнае, дарэчы, выйсце, бо бывала так, што ўрокі я зрываў. Напрыклад, мог закурыць прама на ўроку біялогіі.

Курыць я пачаў з пяці гадоў. А праз кароткі час навучыўся і піць.

Школу я скончыў у 1978 годзе. З-за ранейшага запалення вачэй атрымаў «белы білет», дзякуючы чаму не трапіў у Афганістан.

Уладкаваўся на шыферны завод, які знаходзіўся ў родным Красным Сяле.

## Бунтарскія парогі

На заводзе я прапрацаваў каля двух гадоў. Амаль адразу пачаў канфліктаваць з начальствам. Нават арганізаваў забастоўку. Вельмі шмат крала начальства, і я пачаў гэта выкрываць.

Хутка зразумеў, што мяне альбо заб'юць, альбо пасадзяць у турму. Глебу для гэтага яны ўжо пачыналі рабіць, я якраз прачытаў, што ў БДУ стварылі падрыхтоўчая аддзяленне. Сабраў дакументы, з горам папалам здаў іспыты (асабліва нямецкую мову) і пачаў вучыцца.

Наш інтэрнат месціўся на Паркавай магістралі, якая пры мне стала праспектам Машэра-

# у кожным з нас

ва. Адвучыўся год на падрыхтоўчым і ў 1980 годзе стаў студэнтам філалагічнага факультэта (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Чаму менавіта рускае аддзяленне? Гэта мне параілі дасведчаныя людзі, бо там вучылася вельмі шмат, скажам так, надзвычай прасунутых асобаў. Да таго ж, паступаючы на рускае аддзяленне, я ўжо быў прынцыповым беларускім нацыяналістам.

Невыпадкова, што мной вельмі хутка зноў пачала цікавіцца адна сумна вядомая арганізацыя. Прапанова супрацоўнічаць прагучала напрыканцы пешага курса. Тыдзень далі падумаць. Я прыехаў дамоў, некалькі дзён хадзіў «чорны», а потым пра ўсё вылажыў маці. Яна сказала так: нас у радаводзе не было ні паліцаяў, ні партызан. Вяртайся, работу знойдзеш».

У БДУ ўдалося скончыць паўтара курса, але дахаты я не вярнуўся. Паехаў бадзяцца па Савецкім Саюзе.

У мяне быў добры сябра Андрэй Вальдулевіч, якога за рок-музыку адлічылі з Гродзенскай музвучэльні. Суперскі гітарыст. На жаль, у Германіі памёр ад анкалогіі. Пахаваны на праваслаўных могілках у Берліне.

Разам з Андрэем мы аб'ездзілі амаль усю еўрапейскую частку Савецкага Саюза, аднак на Усход я не быў далей сто першага кіламетра ад Масквы. Выключэннем стаў толькі горад Струніна Іванаўскай вобласці, дзе жыў наш сябар.

Тэкстыльны горад Струніна — гэта тое ж Іванава. Толькі меншых памераў. Вечарам утраіх прыходзім у іх агромісты Дом культуры на танцы. На ўваходзе стаіць невялікая купка мужыкоў. У ватніках, кірзавых ботах, усе кураць «Беламор». Мы ў касцюмчыках уваходзім у залу, а там — працьма дзяўчат. Вядучы нас заўважыў і адразу абвясціў «белы танец». «Працьма» рынулася да нас. Праняў нейкі невытлумачальны страх. Мы кінуліся ўцякаць. Беглі аж да вакзалу. Такое помніцца ўсё жыццё.

Аб'ехалі амаль увесь Крым, краіны Балтыі, Украіну. Жыў на грошы, якія зарабляў. На шчасце, з працай ніякіх праблем тады не было. На любым прадпрыемстве мінімум былі патрэбныя грузчыкі.

Кім я толькі не быў. Змяніў каля дваццаці месцаў работы. Працаваў і токарам, і слесарам, і перакладчыкам у БелТА, і спортынструктарам, і агентам па продажах, і нават докерам у Клайпедзе. Гэта, дарэчы, вельмі цяжкая праца, асабліва, калі трэба цягаць рыбную муку. Кожны мяшок — пад сто кіло, плюс у мяне маленькія далоні, што для грузчыка не вельмі добра. Акрамя гэтага — пыл у труме стаяў такі, што я пачынаў задыхацца.

Пераязджалі з месца на месца звычайна ў электрычках, дзе кантралёры нас амаль не чапалі. У любых кампаніях мы былі пажаданымі гасцямі, бо Андрэй прыгожа граў на гітары, а я добра расказваў анекдоты.

Начавалі дзе давядзецца. Бывала, на вакзалах, у гатэлях альбо ў прыватнікаў ці проста ў знаёмых. Бывала, у дзяўчат — маладыя, валасатыя, з гітарай.

Колькі сябе памятаю, увесь час хацелася з'ехаць з Савецкага Саюза. Як і маім блізкім сябрам. Не падабалася нам гэта сістэма. Сістэма хлусні, двудушнасці і татальнага дэфіцыту. Я нават у камсамол уступіў толькі падчас працы на заводзе, таму што прыйшлося. Аднойчы мы даволі моцна з хлопцамі выпілі. Назаўтра я прыйшоў на работу някі — рукі трасуцца, халодны пот, галава баліць. Да мяне падышоў наш сакратар камітэту камсамола і мой сусед Мар'ян Юроўскі. Паглядзеў, усё зразумеў і кажа: «Паехалі ў Ваўкавыск. Я там цябе пахмялю, а ты ўступіш у камсамол». Да таго ж ён паабяцаў аформіць адгул з аплатай рабочага дня. Так і зрабілі.

### Парогі лёсу

Бадзяліся мы з Андрэем аж да вясны 1986 года, з перарывам на некалькі месяцаў 1985 года, калі я паспрабаваў аднавіцца ў БДУ. Нават паспеў з'ездзіць на бульбу і правучыцца некалькі месяцаў. А потым зразумеў, што КДБ мяне ў спакоі не пакіне, і зноў сышоў.

Дарэчы, менавіта тады я і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. У той дзень я быў у некага ў гасцях. Вяртаўся ў наш інтэрнат «пад мухай» і пераблытаў паверх. Зразумеў памылку і ўжо хацеў сысці, калі ўбачыў святло, якое лілося ў калідор з крайняга пакою.

Вырашыў паглядзець, што там такое. Аказалася, дзяўчаты святкавалі Дзень народзінаў сваёй сяброўкі і запрасілі мяне далучыцца. Сярод іх была адна, якая сядзела ў старонцы і чытала кніжку. Прыглядзеўся, па-ангельску напісана — Рэй Брэдберы. Мяне гэта моцна ўразіла. Дамовіўся, пазнаёміцца «на цвярозую галаву».

Аказалася, Інэс Берэсуэта родам з Эквадора, да нас прыехала па студэнцкім абмене. Па бацьку яна басконка. З басконскай мовы прозвішча перакладаецца як чалавек, што любіць мора.

Ніякіх рамантычных настрояў дзяўчына не выклікала, бо не па майму густу — малая ростам, 158 см. Тады мне больш падабаліся высокія і даўганогія.

Гэта я потым зразумеў, што ніякіх стандартаў тут быць не можа, бо Бог зробіць з дакладнасцю наадварот.

Пасля гэтага я паехаў у Клайпеду, дзе і працаваў докерам. Аднак хутка не вытрымаў і з'ехаў адтуль у Грузію. Дакладней, у горад Тэлаві, які вядомы па культаваму фільму «Міміно». Горад-казка, сапраўдная Грузія.

У Тэлаві шыкоўная карцінная галерэя. Князь Чахчавадзэ падарыў яе гораду. Там трыста карцін. Па адной усіх вялікіх мастакоў.

Потым мы з Андрэем вярнуліся ў Беларусь. І на наступны дзень пасля аварыі на ЧАЭС загаралі на пляжы Жлобіна, бо спёка была неймаверная.

Магчыма, менавіта тады ў Андрэя і пачалася меланома... Чатыры гадзіны на радыяцыйным сонцы. На наступны дзень мы вярнуліся ў Мінск.

Я зноў сустрэўся з Інэс. Пагаварылі і зразумелі, што кахаем адзін аднаго. Я паехаў дадому, у Ваўкавыску ўладкаваўся на завод, якія вырабляў машыны для дахавых работ. Год мы не маглі распісацца, збіралі дакументы.

Дарэчы, шмат перашкодаў было не толькі ў мяне. У Інэс таксама. Эквадор — вельмі веруючая краіна. Я для эквадорцаў быў увасабленнем ваяўнічага атэізму.

14 мая 1987 года мы пабраліся шлюбам. Я перабраўся ў Мінск. Адразу ўзніклі праблемы з жытлом. Як толькі людзі даведваліся, што мая жонка замежніца — адразу адмаўлялі ў кватэры. Ды яшчэ ў мяне ваўкавыская прапіска, у Мінску нідзе не ўладкавацца на работу.

У 1988 годзе ў Мінску нарадзіўся мой сын. У яго падвойнае імя Ян Францішак і падвойнае прозвішча Вераціла-Берэсуэта. А ў 1990-м нарадзілася дачка Ляля Марыя Эліза. Яна працуе настаўніцай пачатковай школы ў Лондане, вучыць так званых стрэсавых дзяцей з гарачых кропак.

Сын жыве ў Эквадоры. Хаця яму там вельмі няпроста, бо ён не падобны да асноўнага насельніцтва краіны — высокі, светлы. Спрабаваў нават фарбаваць валасы ў чорны колер, каб быць падобным на астатніх. Не спрацавала. У яго шмат талентаў — спартовец, вэб-майстар, музыкант, мастак. Наколькі мне вядома, зараз ён працуе ў турыстычным бізнесе.

Пасля нараджэння сына нам далі маленькі пакойчык у інтэрнаце. Яны жылі там, а я — дзе прыйдзецца. З большасці ў сяброў. Працаваць мог толькі «на халтурах».

Калі сыну было больш за год, мы на дзевяць месяцаў паехалі ў Эквадор, каб яго і мяне паказаць тамтэйшаму клану Берэсуэта.

У Эквадоры для нас, беларусаў, шмат незвычайнага. Напрыклад, там ледзь не далікатэсам лічацца марскія свінкі. На мой густ — амаль пацукі.



Вяселле. Жонка Інэс Берэсуэта

Дачка, як і я, нарадзілася ў Ваўкавыску, але мы зачалі яе ў Эквадоры.

Потым я вырашыў паступіць на журфак БДУ, зразумела, на завочнае аддзяленне. Па дагавору я тады супрацоўнічаў з «Вожыкам», і як фрылансер пісаў артыкулы для розных СМІ. Паступіў. Але правучыўся толькі паўгода. Здарылася гэта з-за экзамену па замежнай мове. Але не буду распавядаць пра ўсе акалічнасці.

Урэшце на дадзены момант маю паўтара курса філфаку і паўкурса журфаку.

### Да бацькоўскага парога

Пасля сканчэння жонкай вучобы, яна з дзецьмі вярнулася ў Эквадор.

Спачатку мы падтрымлівалі адносіны, ліставаліся, размаўлялі па тэлефоне, а потым гэта ўсё сышло.

У мяне пачалася вельмі моцная дэпрэсія. Не ведаю, як змог яе перажыць. Сёння ў гэта цяжка паверыць, аднак у 1992 годзе я зняў кватэру ва Уручы за 10 долараў на месяц. Калі з раніцы сыходзіў на работу, то пакідаў там уключанымі святло, радыё і тэлевізар. Так па вяртанні першыя хвіліны мне здавалася, што ў доме нехта ёсць, бо пасля радаснага шуму жонкі і дваіх дзяцей «слухаць» цішыню было проста невыносна. Хоць ты вешайся...

Праз два гады вярнуўся ў роднае мястэчка. Спрабаваў трошку гандляваць, то бок зладзіць нейкі дробны бізнес. Хутка гэта надакучыла, і я цалкам пачаў займацца літаратурай. У Саюз пісьменнікаў уступіў у 2005 годзе, калі ён раскалоўся, і адразу пяцьдзясят чалавек, сярод якіх шмат знакавых прозвішчаў, выбралі тое, што не створана ўладамі.

Дарэчы, мяне прынялі без ужо выдадзенай кнігі. Яна паявілася крыху пазней, хаця была напісана даўным-даўно. «Разбітае сэрца Вітаўта» была намінаваная на прэмію Ежы Гедройца, і многія бачылі яе пераможцай. Замест гэтага мяне там публічна абразілі.

Аднак гісторыя кніжкі складаецца не толькі з гэтага скандалу. Некалі я надрукаваў у «ЛіМе» часоў рэдактарства нябожчыка Алеся Пісьмянкова адно апавяданне. Першапачаткова яно называлася «Разбітае сэрца Вітаўта Чаропкі». Рэдактар, каб не крыўдзіць Чаропку, зняў з загалоўка ягонае прозвішча. У выніку назва атрымалася суперская. Не адразу здагадаешся, што яна расказвае пра каханне чалавека ў розныя перыяды яго жыцця. Назва таго апавядання і стала назвай маёй першай кнігі.

У мяне ляжыць у стале ўжо 18-ы год раман «Эпоха звера». Калі Бог дасць, яго надрукуе адно прыватнае выдавецтва. Па вялікім рахунку, звер ёсць у кожным з нас, і толькі ад асобы самога чалавека залежыць, прачнуцца яму альбо згінуць назаўсёды.

***

Магчыма, некаторыя не пагодзяцца з такой высновай, але, на мой погляд, прычына негатыўных адносінаў да мяне збольшасці ў адсутнасці ўнутранай свабоды. Яны залежаць ад розных абставінаў, творчага славалюбства, а я ўнутрана свабодны. У тым ліку і ад гарэлкі, з якой многія звязваюць маё імя.



Сын і дачка

# «ГараШныя» тайны Шабаноў і Злучаных Штатаў

Андрэй РАСІНСКІ

**Нарэшце пасля лістападаўскай прэм'еры «ГараШ» 11 лютага выходзіць на шырокі беларускі экран. Фільм можна будзе пабачыць у Мінску ў кінатэатрах «Масква», «Перамога», «Арт-Кінатэатр» і «Сільверскрын», а таксама ва ўсіх абласцях Беларусі. Што ж чакае гледача?**




**«Гараш», Беларусь, 2015, Рэжысёр: Андрэй Курэйчык. Ролі выконваюць: Аляксандр Кулінковіч, Арцём Курань, Юры Навумаў, Елізавета Шукава, Эвеліна Сакура, Вадзім Гайдукоўскі, Ягор Забелаў. Жанр: побытавая камедыя**




**На лістападаўскай прэм'еры.** Фота Алега Грушэцкага




**Творчая брыгада.** Фота Алега Грушэцкага

Маладыя беларус, які працаваў у амерыканскім аўтасервісе, высланы на радзіму. Цяпер знайсці новую працу ён можа толькі ў Шабанах. Але ў мінскіх раёнах свае правілы, што радыкальна адрозніваюцца ад законаў за акіянам.

Карціна «ГараШ» — незалежная стужка, пастаўленая драматургам і сцэнарыстам Андрэем Курэйчыкам па-за межамі дзяржаўнай сістэмы з беларускімі акцёрамі і на дабрадайным беларускім матэрыяле.

Маляўнічы гараж з жалеззем, досціпы аўтамеханікаў, якія абавязкова падзеляцца жыццёвай філасофіяй, схаваныя трупы і нявздзейсненыя стрыптыз, каханне, галюцынацыі, хабар і стабільная Беларусь — што яшчэ трэба для поўнага шчасця маладога чалавека, які толькі вучыцца?

Разынка карціны — дуэт цынічных механікаў — Аляксандра Кулінковіча і Юрыя Навумава. Кулінковіч ужо з'яўляўся ў фільме «Вышэй за неба», над якім працаваў Курэйчык. Там акцёр парадаваў гледачоў кароткімі фінальнымі развažаннямі. Удалы, цынічна-радасны досвед быў жыўцом перанесены ў «ГараШ», але тут ужо Кулінковіч разгарнуўся напоўніцу.

Развагі пра грошы, працу ды беспрацоўе — актуальныя, адточаныя і зрываюць апладысменты. Жэсты і позіркі — як ударныя рэплікі ў камічных эпізодах, але дзейнічаюць без слоў. А Эвеліна Сакура, якая ў фільме заблукала і перабытала адрас, шчодра дзеліцца камізмам (і вабнотамі).

Карціна ўжо была прадстаўлена на фестывалі «Лістапад», выклікала зацікаўленасць публікі, але і крытыку ў свой адрас.

Збівала з панталыку, што паспяховы драматург, які выдатна карыстаецца жанравымі схемамі, зрабіў рэверанс — на думку некаторых, не зусім зграбны, — у бок аўтарскага кіно. Але такі крок ужо быў закладзены стужкай «Вышэй за неба». Акрамя таго, некаторае аслабленне драматургічных спружынаў на карысць аўтарскай меланхоліі нечакана выявіла нейкія важныя адметнасці сучаснага беларускага жыцця.

Герой стужкі, які ў сваёй харызме прайграе старым механікам, не столькі дзейнічае, колькі церпіць, правальваецца ў сны і галюцынацыі, назірае — і вучыцца. Такая рыса — тыповая для сучаснага беларуса, які старанна прыстасоўваецца і ўцякае ва ўнутранае жыццё.

Ёсць яшчэ адзін цікавы канфлікт дый жанравая адметнасць. Герой стужкі спрабуе, як у вестэрне, усталяваць закон на беззаконнай тэрыторыі (музыка Дзмітрыя Фрыгі сумленна адбівае гэтыя вестэрнавыя адсылкі). Беззаконная тэрыторыя «ГараШа» — гэта, увогуле, ледзьве не пячора людажэраў (дасціпныя сцэнкі на гэты конт маюцца).

Але ў «стабільнай» Беларусі жыццё працякае згодна з зусім невестэрнавымі законамі. Гэта не-законы — хітрасці і падману, выкрутасаў і махлярства, глупоты і шахрайства, даведзенага да мастакоўскай раскошы. Неабходна проста расслабіцца, каб улучыцца да кругабегу.

Падман працінае жыццё, няма стратэгічнай мэты, якую варта падстрэліць, ёсць тактыкі выжывання і радасці ад штодзённасці. У гэтай штодзённасці ёсць чысты спірт і гарэлка ў гарбату (супрацьлеглыя наркатычным амерыканскім «трыпам»), ёсць мілая пячора падманшчыкаў-«людажэраў», ёсць Шабаны, якія чакалі свайго часу, каб аб'явіцца — «ажно мільён гадоў».

Не шукайце ў фільме глабальных адкрыццяў. Лепей шукаць нуднага Джармуша, каб наткнуцца на пацешнага Кулінковіча. Шукайце мінскія вуліцы і герояў. Жмені смешных эпізодаў, легендарны раён, абжыванне месца, нясумны беларускі фільм, які насуперак усім сістэмам выходзіць да гледача — гэтыя простыя мінскія тайны даўно былі недаступныя.

**ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» запрашае прыняць удзел у IX Агульнанацыянальнай дыктоўцы, прысвечанай Міжнароднаму дню роднай мовы, першы тур якой адбудзецца 21 лютага ў сядзібе ТБМ.**

**Пачатак у 11.00 гадзін. Кожны ўдзельнік атрымае падарунак.**

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ____
Всего ____

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 625 57 51; +375 17 268 52 81; novychas@gmail.com

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 134

Падпісана да друку 12. 02.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.